# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 27 (1573) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 6 ЛІПЕНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.





Спявае беластоцкі харавы калектыў „Каласкі" пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы.

# КВЕТКА ТЫ НАША, ПАПАРАЦЬ-КВЕТКА...

Быў цёплы чэрвеньскі вечар На ўскраінах Беластока адцвілі ўжо сады і пахла першым мёдам. Здавалася, што зямля акунулася ў нядзельную дрымоту.

„Купалінка, купалінка, цёмная ночка! Цёмная ночка, а дзе ж твая дочка?" — неяк трывожна-дрыготка парушыў цішыню наваколля беластоцкі „Звон", — і тут жа няўлоўны арамат нябачнай папараць-кветкі, легендарнай кветкі шчасця для таго, хто яе знойдзе, і цэлага няхітрага букету ўсіх гэтых наших васілёчкаў, рамонкаў, званочкаў прыплыў разам з пахам „ружы ў садочку", на момант затрымаўся над анямеўшай публікай у Беластоцкім амфітэатры, а потым таксама нечакана, як і з'явіўся, адплыў, растварыўся ў сіняй далечыні.

„Купалінка, купалінка, цёмная ночка! Цёмная ночка, а дзе ж твая дочка?.."

Але ўсё гэта было ўжо на другі дзень. А пачалося ў суботу, 14 чэрвеня 1986 года, у беластоцкай зале „Форум". А фактычна яшчэ раней, бо ўжо добрых пару месяцаў і ў ГП БГКТ і ў Ніве", і ў рыхтаваўшыхся калектывах панаваў нейкі рух, узбуджаны настрой, вяліся размовы пра беларускае свята ў Беластоку.

У зале „Форум" занадта тлумна не было. Хаця арганізатары стараліся як маглі: зрабілі фотавыстаўку „Родная старонка" з цудоўнымі краявідамі і людзьмі Беласточчыны, далі магчымасць купіць выданні БГКТ і арганізавалі кніжную латарэю, а Янка Мордань двоіўся і троіўся, — аматараў сцэнічнага мастацтва (якому ў асноўным быў прысвечаны першы дзень свята) выявілася ў нас няшмат. А шкада, бо прайсціся на бясплатныя выступленні нашых самадзейных тэатральных калектываў было не толькі варта, але нават і трэба. Беластоцкая ж публіка, на жаль, аддае перавагу песні.

Выступілі, такім чынам, чатыры калектывы, а я не магу ўстрымацца, каб пра два з іх не расказаць крыху болей. Нельга не падкрэсліць гэтых дзвюх цудоўных з'яў у нашым мастацкім жыцці апошняга часу: існавання бельскага „Парнаса" і тыневіцкай пастаноўкі „Адведак".

„Парнас" — гэта малы тэатр паэзіі пры Бельскім доме культуры. Прыдумаў яго і кіруе ім Янка Мордань, ён жа і яшчэ 11 маладых людзей складаюць акцёрскі калектыў „Парнаса".

„Парнас" у першы дзень беларускага фестывалю выступіў два разы: спачатку з літаратурна-музычным мантажом на падставе твораў нашых літаратараў-„белавежцаў" („Хай жывуць за межамі багата, можа там і ляпей каму, але там няма бяроз ля хаты і такіх, як у нас, кляноў", — дэкламавалі яны верш Уладзіміра Гайдука, паэта-хлебароба; а на канец паказаў гумарыстычную сцэнку „Аўтарская сустрэча", напісаную самімі „парнасцамі", а ў асноўным Янкам Морданем. І яна якраз найбольш сведчыць пра небанальны талент маладых людзей. Трэба было бачыць, з якой павагай і сапраўдным сцэнічным май-


(Працяг на стар. 4)





## ХУТЧЭЙ КРОЧЫЦЬ НАПЕРАД!

X з'езд ПАРП уваходзіць у гісторыю польскага рабочага руху як адзін з самых працавітых і самых плённых з'ездаў.

На працягу пяці дзён 1776 дэлегатаў, выбраных 2 мільёнамі 126 тысячамі членаў інтэнсіўна працавала над вырашэннем найважнейшых спраў Польскай аб'яднанай рабочай партыі і Польскай дзяржавы. На з'езд прыбыло 107 дэлегацый ад замежных камуністычных і рабочых партый з розных кантынентаў. Дэлегацыю Камуністычнай партыі Савецкага Саюза ўзначаліў Генеральны сакратар ЦК КПСС Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў. X з'езд ПАРП стаўся выдатнай падзеяй у міжнародным рабочым руху і палітычным жыцці свету.

Гэта з'езд звычайны, але асаблівы, бо ён завяршае вельмі цяжкі час і адкрывае новы этап у далейшым развіцці Народнай Польшчы, — падкрэсліў Першы сакратар Войцех Ярузэльскі ў дакладзе Цэнтральнага камітэта з'езду. Уся краіна чакала ад з'езда праўды і надзеі: праўды пра стан нашага грамадства і яго гаспадаркі, і надзеі на хутчэйшы марш наперад.

X з'езд ПАРП працаваў з поўнай свядомасцю, што партыя, узначальваючы народ, служыць народу. Найвышэйшы форум польскіх камуністаў поўнасцю апраўдаў ускладзеныя на яго спадзяванні. На з'ездзе была сказана шчырая праўда пра нашае жыццё, клопаты, праблемы, цяжкасці. Адначасова з'езд на падставе ўдумлівых аналізаў сцвердзіў, што мы маем шырокія магчымасці паскоранага развіцця ўсіх дзялянак гаспадаркі і штораз паўнейшага задавальнення ўсіх нашых духоўных і матэрыяльных запатрабаванняў. „Эфектыўнасць працы і дзеяння — вось наша быць альбо не быць", — так коратка акрэсліў з'езд асноўны кірунак нашых імкненняў.

„Мусім хутчэй крочыць наперад!" — з такім заклікам звярнуўся з'езд да ўсіх грамадзян нашай краіны.

Прынятыя X з'ездам ПАРП рашэнні вызначаюць асноўныя напрамкі і тэмпы развіцця нашага грамадства на значны час і да іх мы часта будзем звяртацца.

**УВАГА: ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ РАСКЛАД РУХУ АЎТОБУСАЎ ПКС З СЯМЯЦІЧ!**



## ЗАСТАНЕЦЦА З НАМІ

Хто з нас, беларусаў, у хвіліну вялікай узнёсласці ці ў час горкага роздуму не мае на вуснах неўміручых слоў: „*Люблю наш край, старонку гэту...*“? Гэтая песня стала клічам, што набліжае і яднае сэрцы, шчыра адданыя ўсяму роднаму, незалежна ад узросту, часу і аддегласці. Але сэрца яе Аўтара спынілася...

Толькі нядаўна дайшла да нас сумная звестка: 4 чэрвеня г.г. на 88-м годзе жыцця памерла вядомая беларуская пісьменніца Канстанцыя Буйло (сапраўднае прозвішча — Калечыц). Нарадзілася паэтэса 11 студзеня 1899 г. у вёсцы Барсуковіна на Ашмяншчыне ў сям'і лесніка. Вучылася ў Вільні, у 15-гадовым узросце пайшла працаваць спачатку вясковай настаўніцай каля Ліды, потым прадаўшчыцай у беларускай кнігарні ў Полацку, пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі жыла ў Расіі, а з 1923 г і да апошніх дзён — у Маскве.

Калі паэтэсе было ўсяго 10 год, у газеце „Наша ніва“ паявіўся яе верш „Хвоя“ і з таго часу яе паэзія спадарожнічае і да сёння беларускаму народу. Яна ўзрастала пад непасрэдным уздзеяннем Янкі Купалы. Гэта ён, працуючы ў „Нашай ніве“, дзяліўся з ёю думкамі пра ролю паэзіі, даваў творчы парады, выпраўляў уласцівыя кожнаму маладому паэту шурпатасці ў вершах, урэшце — склаў і адрэдагаваў першы яе зборнік твораў „Курганная кветка“, які быў надрукаваны ў 1914 г у Вільні. Ужо на першых яе вершах Максім Багдановіч у 1911 г. сваім незвычайным чуццём прадбачыў, што „Канстанцыя Буйло абяцае развіцца ў праўдзівы асабісты талент“. І яна ўзрасла і закрасавала як чароўная курганная кветка, увабраўшы і пераўтварыўшы забытую спадчыну свайго народа.

Хоць К. Буйло па жыццёвай неабходнасці жыла па-за Беларуссю, але сэрцам і думкамі яна заўсёды была на Радзіме. Дала яна гэтаму выраз у сваіх вершах, якія склалі зборнікі „Світанне“ (1950), „На адноўленай зямлі“ (1961), „Май“ (1965), „Роднаму краю“ (1973), у кніжках для дзяцей „Юрачка“ (1958), „У бляску зор“ (1968), у артыкулах. За вялікі творчы ўклад К. Буйло ў 1968 г. было прысвоена ганаровае званне заслужанага дзеяча культуры Беларускай ССР.

Не стала сярод нас выказальніцы нашых дум і пачуццяў, але засталася назаўсёды памяць пра яе, яе паэзію і яе любоў да народа, да роднага краю. І няхай заўсёды нам спадарожнічаюць словы Канстанцыі Буйло:

Усё ў тым краю сэрцу міла,  
Бо я люблю край родны мой,  
Дзе з першым шчасцем я спазналась  
І з гора першага слязой.

(іс)

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

## НА ПОЎНАЧ АД ЧАРНОБЫЛЯ

Цяжкім выпрабаваннем стала аварыя на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі (АЭС) для паўднёвых раёнаў Беларусі. Чарнобыль жа ўсяго ў некалькіх кіламетрах ад паўднёвай мяжы Гомельскай вобласці БССР. Гэтым раёнам шмат увагі прысвячае беларускі друк. Мы выбралі некалькі характэрных сведчанняў яго.

Бязлюдны пяцьдзесят вёсак Беларусі ў трыццацікіламетровай зоне ад АЭС, з якіх эвакуіравана 26 тысяч чалавек. Яны перавезены разам са свойскай жывёлай, калгаснай саўгаснай тэхнікай ў больш бяспечныя месцы. Эвакуіраваныя разумеюць: на новыя месцы жыхарства і работы яны прыбылі не на дзень-два. Таму вельмі важна было давесці сутнасць сітуацыі да кожнага вяскоўца.

На другі дзень пасля аварыі ў раёнах і ўсіх вясковых Саветах былі створаны аператыўныя дэпутацкія групы, якім трэба было вырашаць усе практычныя пытанні, звязаныя з ацэнкай сітуацыі і прыняццем захадаў для бяспекі насельніцтва і выратавання жывёлы. Работа ішла кругласутачна. Сярод насельніцтва распаўсюдзілі лістоўкі з растлумачэннем неабходных мераў засцярогі. Цяжарным жанчынам і дзецям прапанавалі неадкладна выехаць у бяспечныя месцы, выдаўшы бясплатныя пуцёўкі ў санаторыі-прафілакторыі прамысловых прадпрыемстваў вобласці, забяспечыўшы іх транспартам. Ува ўсе вёскі прыбылі медыкі, дазіметрысты. Былі герметызаваны ўсе 60 тысяч калодзежаў вобласці.

Пачалася эвакуацыя. У першую чаргу адправілі непрацаздольнае насельніцтва. Тыя што засталіся разам з брыгадамі ўмацавання, якія прыбылі на дапамогу з суседніх калгасаў, грузілі спачатку свойскую жывёлу (свіней пры гэтым у насельніцтва, каб звольніць людзей ад лішніх турбот, выкупляў калгас), потым — грамадскую. Працавалі дружна, без мітусні. Толькі ўпэўніўшыся, што ўсе двары апусцелі, арганізатары пакінулі вёскі, дзе засталіся несці каравульную службу толькі нарады міліцыі.

Людзі пры выездзе з зоны прымалі душ, здавалі ў чыстку вопратку. Уся эвакуацыя прайшла за 36 гадзін.

Дзейнічае абласны штаб па ліквідацыі паслгяўздзеянняў аварыі. Адной з асноўных задач яго з'яўляецца каардынацыя дзейнняў розных міністэрстваў і ведамстваў, адкуль ідзе дапамога людзям. Міністэрства гандлю, напрыклад, усяго толькі за суткі перабудавала сістэму гандлю вобласці. У выніку ў першы ж дзень у вёскі, куды ішло перасяленне, прыбылі аўтакрамы з усім неабходным. Вобласць атрымала дадатковыя сотні тон прадуктаў палепшанай якасці. Камунальнікі паклапаціліся аб пашырэнні сеці лазняў, бытавое абслугоўванне наладзіла работу перасоўных прыёмных пунктаў. На Гомельшчыну паступілі дадатковыя будаўнічыя матэрыялы і тэхніка.

Асаблівыя клопаты — кампенсацыя матэрыяльных страт перасяленцаў. На сям'ю выдзялілі па 200 рублёў, апрача гэтага аператыўную грашовую дапамогу аказалі ў першыя дні вясковыя Саветы. Патрабуючым, а таксама дзецям бясплатна выдавалі бялізну і пасцельныя прыналежнасці, медыкаменты для прафілактыкі.

Медыцынскае назіранне насельніцтва трывожных раёнаў пачалося даслоўна на другі дзень пасля выпадку. Паглыбленую праверку, якая ўключае аналіз крыві, прайшлі ўсе без выключэння жыхары. Назіранне вялося пастаянна, а паглыбленае — паўтаралася праз дзесяць дзён. Паступова зона ахопу поўнай праверкай насельніцтва пашыралася, і затым была пастаўлена задача поўнага абследавання ўсіх жыхароў вобласці. Медыкі кантралююць фонавую канцэнтрацыю, вялі і вядуць аналіз прадуктаў харчавання і прадукцыі жывёлагадоўлі. Медыцынскі персанал, які прыбыў па трывозе з розных куткоў рэспублікі, працуе не складаючы рук.

Ну, а што ў нас там, дома? — пытаюцца людзі, што прыбылі з раёнаў, якія знаходзяцца ў непасрэднай блізкасці ад Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі. А там ні на імгненне не спыняецца работа. Такая ж самая работа — мужная і гераічная. У многіх з 50 населеных пунктаў Брагінскага, Хойніцкага і Нараўлянскага раёнаў, з якіх эвакуіраваны жыхары, вядзецца цяпер дэзактывацыя аб'ектаў, плошчаў. Прымяняюцца самыя сучасныя сродкі і методыка. Работы выконваюць з поўным усведамленнем іх важнасці і неабходнасці.

# НА ЗАХАДЗЕ БЕЗ ПЕРАМЕН

## ТРЫВОЖНЫ ДАКЛАД

Сілуэт жудаснага ядзернага грыба, які навіс над планетай, — такім малюнкам-перасцярогай адкрываецца даклад, падрыхтаваны Міжнародным інстытутам па праблемах навакольнага асяроддзя і развіцця. Яго назва гучыць, як трывожны набат: „Схавацца не будзе дзе. „Ядзерная зіма“ і краіны, якія сталі на шлях развіцця“.

На вялікім фактычным матэрыяле аўтары даследавання даказваюць: у любым, нават „абмежаваным“ канфлікце з выкарыстаннем ядзернай зброі не будзе пераможцаў, паколькі такое сутыкненне прывядзе да глабальнай экалагічнай і кліматычнай катастрофы — „ядзернай зімы“, якая закране ўсе без выключэння краіны. Паводле іх ацэнак, у выніку ядзернай вайны ў атмасферу можа быць выкінута каля 40 мільёнаў тон пылу і каля 200 мільёнаў тон гару. Сонечныя промні не змогуць дасягнуць паверхні Зямлі, у выніку чаго рэзка знізіцца тэмпература на планеце. „Нават тыя дзяржавы, якія не будуць непасрэдна ўцягнуты ў баявыя дзеянні, магчыма, могуць быць адкінуты ў сваім развіцці на сотні гадоў назад, іх сувязі з навакольным светам будуць парваны, іх сацыяльна-эканамічная структура пацерпіць крах“, — падкрэсліваецца ў дакуменце.

У асабліва цяжкім становішчы, на думку аўтараў даклада, могуць апынуцца краіны, якія сталі на шлях развіцця, што ў вялікай ступені залежаць ад імпарту розных тавараў, з-за рубяжа, у прыватнасці, медыкаментаў, паліва, угнаенняў. Улічваючы маштабы ядзернай пагрозы, указваюць аўтары даклада, гэтыя дзяржавы не могуць больш заставацца ўбаку ад абмеркавання пытанняў раззбраення. Існаванне ядзерных узбраенняў з'яўляецца глабальнай праблемай, і яе неабходна вырашаць у глабальным маштабе.

## КОЛЬКІ КАШТУЕ ЧЫСЦІНЯ

За апошняе паўстагоддзе, па звестках французскага тыднёвіка „Пуэн“, колькасць адходаў у французскіх гарадах павялічылася ў тры разы. На ачыстку вуліц даводзіцца цяпер затрачваць каласальныя сумы. У мінулым годзе гэтыя работы каштавалі Марселю 476 мільёнаў франкаў, Парыжу — звыш 1,3 мільярда франкаў.

„Пуэн“ падкрэслівае, што адной з прычын забруджанасці гарадоў з'яўляецца распушчанасць іх жыхароў, якія кідаюць смецце проста на вуліцу. Трывогу выклікае і рост ліку сабак, якія забруджваюць вуліцы ў час выгулу. Падлічылі, што лік нешчаслівых выпадкаў, выкліканых тым, што людзі паслізгваюцца на забруджаных сабакамі тратуарах, перавышае колькасць пацярпеўшых на лыжных трасах. Вялікую шкоду чысціні гарадоў наносяць і жавальныя гумкі, змыць якія з тратуараў дужа цяжка.

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 325


## СВЯТЛО ПАЭЗІІ

Я за паэзію свой голас падаю —
Прозы на штодзень
у жыцці хапае.
Няхай у хаце май заўжды цвіце,
Пачуцці ў сэрцах не згасаюць.

Бо кветкі лепш
запахнуць навакол,
І дрэвы загамоняць па-другому,
Калі з табой паэзіі святло
А мы — калі рамантыкі
хоць троху.

Бо кожны чалавек дабрэе
на вачах
Пасля старонак лірыкі
чароўнай —
Акрылены, адноўлены, гатоў
Учынак беззаганны
выканаць ахвотна.

Дык вось чаму паэзію люблю,
Ды шчыра слаўлю песнь паэта.
Я сам хацеў бы ўмець
тварыць, пісаць
І кветкі ускідаць на
бездань свету.

**М. Варанецкі**

* * *

Не будзіце бур
Бо там ёсць цярпенне
Ідзіце ўперад
Разам з жыццём
Вочы ўверх падымайце
Шлях новы пачынайце.

**І. Свентахоўская**

* * *

Адгрыз кусок жыцця
на ўчарашняй вячэры
сярод радзінных душ
зацягнулася гаворка
усе пыталі пыталі
адказваць не было каму
і цяпер калі ўсё
так хутка мінула
калі жыццё спакойна плыве
трэба рашыць
трэба адумацца
ці праўда ўцячэ за парог.
Куды там —
яшчэ годзік паваюем
і пабачым які казак з мяне
ці дарос і зразумеў
каляндар гады ўсё гоніць.
Праз школьныя доўгія пяць год
друкавалася думка ў сэрцы
дзе мая прыстань
ў слове шырокім.
І вось настаў жаданы час
дарос я да старонак
праз вершы і паэмы
ключыў па дарозе
да першага свайго верша.

**У. Саўчук**

Ю. Баена

## У ЧАРНАЛЕСЕ

**Цераз мост лістоўнічы**
**ураджайным полем**
**да цябе я еду,**
**чарналескі Ян.**

**Вакол калосіцца раўніна —**
**Чара напоўненая летам...**

**А ты пад ліпаю**
**купалаўскай ноччу**
**частуеш нектарам**
**музы і паэтаў.**

## КЛІЧНІК І ПЫТАЛЬНІК

Калі ўпершыню
Быццам клічнік
На пурпурным фоне неба
Вітаў я чараду
Жураўлёў над хатай,

Адтуль у сэрцы
Нашу пытальнік:
Ці тугу жураўліную
Ураўнаважаць любоў мая
І маё сумленне?..

## МОЙ РОДНЫ КРАЙ

Не выбіраў цябе я, родны край, на карце свету,
Калі радзіўся між людзей вясковых, шчырых, простых.
Не ведаў, што сталі над калыскай вішні-сёстры,
Не знаў, што лёс падарыць мне уражлівасць паэта.

Мой край ёсць там, дзе ластавак вяртанні і адлёты,
Дзе валошка і рамонак вітаюць ля дарогі,
Дзе я вучыўся слова „мама", уставаў на ногі,
Чуў цяпло і радасць у глыбіні сваёй істоты.

Мой час дзяцінства мінуў сярод палёў пшанічных,
Дзе ў дні спякоты серп яшчэ быў арэолам працы.
А колькі было вяртанняў з поўдня, тугі юнацкай
За імглой вячэрняй і за сцяжынкай да крыніцы?

Нехта іншы няхай імкнецца да пачэснай мэты:
Да шчасця, улады, славы і поспехаў вялікіх,
А я заўсёды ліпай буду, пеўчай і расцвітай,
З карэннямі ў роднай глебе і песнямі над светам.

## БААБАБ

А калі ўжо будзе трэба
баабабам я астануся
зберагу глыбока пад карою
тысячагоддзяў памяць
захаваю сэрца і карэнні
і дажджавой парою
сваім пальчастым лістам
ізноў сустрэну адраджэнне

## ПІЛІГРЫМЫ

З забытых светаў
з цяжкім енкам
чарадой бясконцай
бунчукі вяртаюцца
угледжаныя ўперад
і ўвысь паднятыя.

**Ю. Баена**



**Фрагмент выстаўкі „Оверлянд" у Бірмінгеме (Англія) у днях 17.V. — 14.VI.86 г. На першым плане кампазіцыя з дрэва Дэйвіда Наша „Над зямлёй", на другім плане — карціна „белавежца" Лёніка Тарасэвіча.**

## Афарызмы

Адукаваны чалавек як скарбонка, у якую зложаны веды мудрэйшых.

*

Лягчэй было б прабачаць, калі б маглі хутчэй забываць.

*

Тое, што хочаш забыць, адзывае ў памяці.

*

Неталерантнасць — гэта дыктатура; талерантнасць — гэта дэмакратыя ў суадносінах.

*

Той у катаў лепшы, які хутчэй пазбаўляе жыцця.

*

Хто страшыць — сам баіцца.

*

Чалавек, падбудаваны роднай гісторыяй — гэта чалавек, апрануты ў зброю і акружаны крэпасцю.

*

Хто паўтарае словы праціўніка — працягвае ягоную агітацыю.

*

Глухім можа быць, як той хто павінен слухаць, так і той хто павінен даказваць.

*

Яшчэ не было чорнага анёла, хоць і чорныя вандруюць да Бога. Можа анёла з д'яблам памылялі б, замест маліцца, да чорта пасылалі б.

**Р. Бутайла**

## ВЯРНУЛАСЯ СІРОЧАЕ ШЧАСЦЕ

Іду палявой дарогай па халодным балоце; ступні ад холаду пякуць, пяткі палопаліся — крывавяць, кашуля і нагавічкі парцяныя. Дрыжу ад холаду ды, як на злосць, нешта вострае трапляе ў раны ног і боль даходзіць аж да сэрца. Плачу, але ратунку няма. Ведаю, што не маю мамы, якая напэўна пастаралася б нейк абуць і апрануць мяне. Іду каляінай, дзе вазы лёд паламалі. Маю зайсці за дзесяць кіламетраў у Орлю, каб купіць алею на Каляду. Забаўляе мяне адно думка, што на калядную вячэру будуць смажаныя селядцы.

Маленькі я, і ведаю аб гэтым. Але ведаю і тое, што мушу ўсіх слухацца, каб не білі і хлеба далі...

Раптам адкрываюцца вочы і бачу: стаіць нада мною мая мама, гладзіць мяне па галаве сваёй мяккай і цёплай рукою і ласкава ўсміхаецца. Кажа: „Уставай, сынок, хопіць табе спаць! Пабач, які цудоўны дзень пачынаецца: птушкі гамоняць па ўсю вёску, бусел ужо даўно клякоча на гняздзе, пчолкі мёд робяць, а ты спіш і спіш. Уставай, я пакармлю цябе, а пасля вазьму за ручку і павяду ў садок, пакажу, як яблыні цвітуць".

Хадзіў я з мамай па садочку, а калі забалелі мне ногі, то мама насіла мяне на руках і паказвала плісачку, якая шустра ўвіхалася па сцежачцы за мухамі, паказвала гнёзды розных маленькіх птушак. Яна нейк дзіўна іх называла жоўтабрушкамі, салаўямі, дзятламі, шпакамі. У садзе сапраўды было шмат птушак і іх спеваў. Ежы таксама мелі колькі хацелі, бо ў садзе жужала цьма мухаўні. У музыку маленькіх птушак, нібы акампанімент, улівалася кукаванне зязюлі. Сонейка грэла, а лёгенькі вецярок варушыў галінкі дрэў. Проста рай: я смяяўся, махаў рукамі саду і птушкам, ды цешыўся, што мама знайшлася і шчасце з ёю вярнулася...

Гэта быў сон, які мне прысніўся пасля цяжкай хваробы, калі адыйшла гарачка. Сад быў, птушак у ім было шмат і сонейка грэла, але не было мамы і ніхто мяне па садзе за руку не вадзіў. Прыгажосць садочка я навучыўся бачыць праз слёзы крыўды, якой мне людзі не шкадавалі.

**Васіль Петручук**




Тэатр паэзіі „Парнас“ з Бельска.

# Кветка ты наша, папараць-кветка...

(Працяг са стар. 1)

стэрствам выкарыстоўваліся імі найбольш складаныя гумарыстычныя прыёмы.

Майстэрства можна было пазайздросціць і тыневіцкім жанчынам, якія далі фальклорнае прадстаўленне „Адведкі“. **Колькі свабоды ў ігры гэтых з крыві і косці вясковых жанчын! Усе ж яны працуюць на зямлі. Сядзела вось я і думала: адкуль у іх гэта? Мо адтуль, што іх рэпертуар — гэта іх жыццё, іх звычаі, іх мова... Яны не на сцэне — яны проста ў сябе дома, у вясковай хаце. І калі так бабы прадстаўляюць аўтэнтычныя адведкі з ядою, піццём, гамонкай і песнямі, з бутэлькамі на** стале, затканымі коркамі з паперы, з макутрай і збанкамі, здавалася, што ты на вёсцы, а не ў тэатры. А калыска якая? Дзе яны яе толькі і знайшлі: старая, плеценая, дзіравая. У калысцы равела „дзіцё“.



Мужчынская вакальная група „Звон“ з Беластока.

Цудоўны сюжэт — усё ёсць, перш за ўсё народныя звычаі, традыцыі, але і сучасны топлес — таксама („Сядай, — кажа бабка парадусе, — вымай цыцку, няма ўстыду, калі трэба! Усім пасобіла і табе пасоблю!“ І што вы думаеце, выняла!). І ўсё гэта прыдумалі жанчыны самі. Але найбольш — Валянціна Франкоўская. Пакажыце мне, дзе яшчэ, у якой краіне народ захаваў у сабе такую жывучасць, такую паэзію і такі свежы сапраўдны гумар...

Тое, што адбылося ў беластоцкім Амфітэатры, пераўзышло ўсе спадзяванні. Не першы ўжо раз у Беластоку арганізуецца беларускі фэстын, але такога чагосьці яшчэ не было. Тысячы людзей прыйшлі сюды, каб з нагоды 30-годдзя БГКТ і „Нівы“ сустрэцца з сваім словам, з сваёй песняй, сваімі людзьмі. Прыехалі з усёй Беласточчыны, з Варшавы таксама: Галена Анішэўская, Юрка Туронак, студэнты. Усіх не ўбачыш.

Канцэрт распачаўся а 15-ай. Але людзі ўсё ішлі і ішлі. І недзе а палове пятай, у цэлым Амфітэатры заставалася толькі крыху свабодных месц у занадта асветленай сонцам вертыкальнай паласе пры ўваходзе ў Амфітэатр. Ніхто не вышаў, хіба што за марожаным.

А арганізатары ж так баяліся, што будзе дождж. „Што тады“? — трывожна пытаў у беларускай радыёперадачы Валодзя Праховіч. „Ну, апранемся цёпла і возьмем парасоны“, — адказваў яму сакратар ГП В. Луба. Іншыя ж у сваю чаргу перажывалі, што калі будзе добрая пагода, людзі паедуць на вёску памагаць сушыць сена сваім старым бацькам, або проста выедуць за горад загараць.

Пагода была вельмі добрая!

Цяжка перадаць тую велізарную радасць, можна было б сказаць, эўфорыю, што агарнула некалькі тысяч людзей, калі перад імі, як у калейдаскопе, пачалі праходзіць беларускія калектывы і салісты з Бельска, Гарадка, Гайнаўкі, Орлі, Беластока. З Гайнаўкі выступіў спачатку жаночы хор, пасля — мужчынскі, а потым яшчэ і змешаны. З Бельска — дзіцячы калектыў з Беларускай пачатковай школы нумар 3 і славутыя „Дзявочыя ноткі“ з Беларускага ліцэя, абодва пад кіраўніцтвам Сяргея Лукашука. А былі ж яшчэ і салісты, і дуэты. З Беластока выступілі таксама два калектывы: „Каласкі“ пад кіраўніцтвам Сцяпана Копы і квартэт „Звон“, які ў мінулым годзе заваяваў на Агульнапольскім конкурсе савецкай песні ў Зялёнай Гуры бронзавы самавар, а ў конкурсе „Беларуская песня-85“ заняў першае месца. І нават паспела на фестываль усім вядомая салістка Люба Гаўрылюк, якая сёлета ў конкурсе беларускай песні „выспевала“ першае месца і экскурсію ў СССР, з якой вярнулася толькі ў суботу. Заспявала тую ж шчаслівую песню — беларускую народную „Цячэ вада ў ярок“ (а мо не песня — проста Люба шчаслівая, што мае такі голас...).



Тынявіцкія бабы ў „Адведках“.

І пасля ўсе найпрыгажэйшыя беларускія песні ў выкананні нашых самадзейнікаў як бы зліліся тут, у Беластоку, у адну вялікую раку і шуганулі ў мора, калі ў канцы канцэрта ўсе групы злучыліся і заспявалі супольна з публікай „Люблю наш край, старонку гэту“. Што гэта быў за спеў!

* * *

Людзі сталі паволі разыходзіцца. Нехта за сцэнай яшчэ даспеўваў тое, чаго не даспяваў. Іншыя калектывы ўжо ад'язджалі аўтобусамі дахаты. Многія стаялі яшчэ групкамі, размаўлялі, дзяліліся ўражаннямі.

Нейкі пажылы дзядзька, выходзячы, затрымаўся і сказаў: „А Божа мой, тут жа ўсе знаёмыя!“ Ён стаў ля выхаду і пачаў прыглядацца да выліўшага патоку людзей, і вышукваў сярод іх знаёмыя твары, і вітаўся, і радасна ўсклікваў: „Са святам вас!“ Яго вільготныя вочы свяціліся шчасцем...

І тады мне міжволі падумалася: „Кветка ты наша, папараць-кветка! А можа якраз шуканне цябе гэта і ёсць тое найбольшае шчасце...“

**Ада Чэчуга**
**Фота Сяргея Грынявіцкага**



На свята прыйшлі ў Амфітэатр тысячы беластачан.

# Абпаленыя вайной

## ДАПАМАЖЫЦЕ!

Так адным словам можна перадаць змест двух лістаў, якія ў пачатку чэрвеня г.г. апынуліся ў нашай рэдакцыйнай пошце. Адзін ліст — на беларускай мове — напісала нам Валянціна Іванчук з Бельска, якая ў Пасынках вучыць дзяцей, а другі ліст — напісаны па-руску — завандраваў у пасынкаўскую школу аж з Растоўскай вобласці, што ў Савецкім Саюзе. Паслала яго „ў свет“ старэйшая (відаць гэта па почырку і па стылі), змучаная жыццём жанчына — Цвяткова Марыя Іванаўна з горада Новашахцінска ў Растоўскай вобласці. Шукае яна хаця б якіх-небудзь звестак пра свайго мужа Калаванава Івана Хведаравіча (Колованов Иван Фёдорович), якога гітлераўскае нашэсце на Савецкі Саюз застала недзе на тэрыторыі тадышняй Беластоцкай вобласці, у нейкім мястэчку „Боцко“.

Яна так і заадрасавала свой ліст: „*Белостокская об., местечко Боцко, в любую школу*“. Яшчэ ў СССР хтосьці па-польску да гэтага адрасу дапісаў: „*Polska*“, а хтосьці з нашых паштоўцаў перакрэсліў назву „Боцко“ і дапісаў алоўкам „*Bielsk Podl.*“ У канцы ліст Марыі Іванаўны Цвятковай трапіў у пасынкаўскую школу.

І не ведалі ў Пасынках, што зрабіць з гэтым нечаканым і нетыповым лістам. На шчасце, знайшлася спагадлівая настаўніца, Валянціна Іванчук, якая чытае „Ніву“. Яна піша:

„Паважаны рэдактар Віктар Рудчык!

З вялікай цікавасцю я чытала ў „Ніве“ вашы аповесці „Буг у агні“, а цяпер — „Ваенныя сцежкі“. Даведалася я вельмі многа аб падзеях 1941 года над Бугам, аб змаганні савецкіх салдат з фашыстамі, аб цяжкім лёсе салдат і іх сем'яў.

І вось у нашу школу ў Пасынках (я там працую) прыйшло пісьмо ад савецкай жанчыны, якая шукае мужа. Яна піша, што апошні адрас мужа — Беластоцкая вобл., мястэчка Боцко. Яе муж называўся: Калаванаў Іван Хведаравіч.

Вы дапамаглі столькім людзям, што, думаю, дапаможаце цяпер і гэтай жанчыне. Калі я прачытала яе пісьмо, я адразу падумала пра вас. Пасылаю вам пісьмо Марыі Іванаўны Цвятковай. Думаю, што яна піша пра Боцькі. Але там не пахаваны ніводзін савецкі салдат.

Я вельмі вас прашу заняцца справай гэтай савецкай жанчыны. З пашанай — Валянціна Іванчук.“

Мяне прасіць не трэба. Я яшчэ з таго пакалення, якое было абпалена вайной і па ўласнаму вопыту ведае яе жахі.

Марыя Іванаўна Цвяткова пачынае свой ліст так: „Пошукі мужа. Калаванаў Іван Хведаравіч, год нараджэння 1920, служыў 6 месяцаў у Брэсце, адрас і нумар ваеннай часці — усё згарэла. Але ў апошнім пісьме ён мне паведамляў, што іх пераводзяць на нейкае іншае месца, у лес, бліжэй да граніцы. Памятаю адрас гэтага апошняга пісьма. Беластоцкая вобласць, мястэчка Боцка. Ён пісаў, што там гэтакі лес, ад якога і неба не відаць. Я яму адпісала, але гэтая мясцовасць была ўжо пад акупацыяй.

Прашу, можа недзе там ёсць нейкія спіскі або помнікі, калі ласка дапамажыце! Ад яго астаўся мне сын, Калаванаў Уладзімір Іванавіч.

Магчыма, нехта з пасёлка Боцка ведае штосьці пра Калаванава Івана Хведаравіча, 1920 года нараджэння? Мне пасля вайны паведамілі, што ён загінуў „без весці“. Але сын і я не можам супакоіцца. А вось мо нехта што-колечы ведае! Хацелася б ведаць хаця б, дзе яго магілка. Тады нам будзе лягчэй. Тады мы паедзем туды. Я спадзяюся атрымаць ад вас нейкую вестачку. Мой адрас: СССР. 346909, г. Новошахтинск 9, Н-Соколовка, ул. Трудящихся 12, кв. 2, Цветковой Марии Ивановне или сыну — Колованову Владимиру Ивановичу“.

Адным словам, дапамажыце, добрыя людзі, знайсці чалавека або нейкі след аб яго існаванні і гібелі! Я ў сваю чаргу абяцаю, што зраблю ўсё неабходнае, каб нечым пацешыць жонку і сына загінуўшага воіна, бо ведаю, што для гэтых людзей лютая вайна ўсё яшчэ працягваецца, хаця закончылася яна амаль паўстагоддзя таму назад.

М. І. Цвяткова называе мясцовасць „Боцко“. Такой мясцовасці, на жаль, на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства няма. Настаўніца Валянціна Іванчук мяркуе, што гэта перакручаная назва пасёлка Боцькі. Магчыма. Толькі ў Боцьках, наколькі мне вядома, у 1941 годзе не памяшчаліся савецкія воінскія часці. Затое былі яны ў лесе за вёскамі Бацікі. Пішу „за вёскамі“, бо аж тры вёскі носяць назву Бацікі: Бацікі Бліжнія, Бацікі Ся-

# Дзе спрасці воўну

Мінулі ўжо часы, і здаецца, назаўсёды, калі жанчыны ўсе зімовыя вечары праводзілі за калаўроткамі, дзерлі пер'е ці ткалі. Праўда, ёсць такія жанчыны, што і сёння ў такім занятку знаходзяць прыемнасць — гэта сапраўдныя мастачкі, з-пад іх рук выходзяць шэдэўры рукадзелля. Але большасць жанчын ахвотна аддала б воўну з уласных авечак спрасці каму-небудзь, хто гэта ўмее рабіць і хутчэй, і лепш, а ім застанецца трошкі часу, які можна было б прысвяціць дзецям ці заняцца чымсьці больш для іх адпаведным.

Але дзе можна было б спрасці воўну?

Яшчэ да нядаўна з уласнай воўнай трэба было шукаць добрую цётку, якая згадзілася б сядзець пры калаўротку доўгія вечары або везці з ваколіц Гайнаўкі ці Бельска аж за Бранск, дзе быў адзіны ва ўсходняй Беласточчыне такі рамесніцкі варштат. Не так даўно часальня і прадзільня воўны паявілася ў Бельску, а зусім нядаўна — у Нарве.

Нам давялося пабываць у майстэрні Янкі Чэрнякевіча, насупраць ПОМу ў Нарве. Ён працуе ў ПОМе, а вечарамі чэша і прадзе воўну ў сваім варштаце для кліентаў. Працуе ён на вялікіх, фабрычных машынах. На адной з іх адбываецца часанне і мяшанне воўны, на іншых робяцца ніткі, спачатку воўна выцягваецца ў роўны мяккі шнурок, а потым прадзецца і матаецца адразу на 40 шпулек. Потым, на жаданне кліента, можна гэтыя тоненькія ніткі ссучыць па дзве, тры ці больш, хто як хоча. Машына можа нават мяшаць воўну розных колераў.



Янка Чэрнякевіч вядзе варштат часання і прадзення воўны.

Фота Яніны Чэрнякевіч.

Напрыклад, воўну з белых і чорных авечак можна так вымяшаць, вычасаць і спрасці разам, што выходзіць аднародная, роўная шэрая нітка.

— Цяпер, — кажа майстар, — модныя дзяўчаты заказваюць шэрую воўну на модныя цёплыя спадніцы на зіму. Каб зрабіць ніткі цёмнага сталёвага колеру, трэба на 1 кг белай воўны дадаць 0,3 кг чорнай воўны.

# ГОРБ

Прывезла яе, маленькую, сястра ў вёску. Я ж гадавала, як сваё роднае дзіцяня. Аднойчы выціраю яе пасля купання, палажыла на жывоцік, гляджу — а яе пазваночнік такі дзіўны, няроўны, на скос. А дзіця не плача, мусіць нарадзілася яно ўжо з гэтым. А я ў страху: канец! Скажуць, што не дапільнавала. Суседка якраз зайшла — паказваю, раюся. У вачах цямнее, Божа мой!..

Пад вечар сястра прыехала аўтобусам. Ужо ў пачатку вёскі сказалі, што ў Люсі паломаны пазваночнік. Сястра, ледзь жывая, дабегла да маёй хаты, і адразу з крыкам да мяне... Што я перажыла!

На другі дзень яна з маім сынам павезлі дзіця да лекара. У такі мароз! Не далі рады абслужаць, так дзіця крычала.

На другі дзень запрагаю я ў сані і зноў вязу. А мароз!.. Зноў дзіця ў крык. Мусіць таму, што ўсе ў белым. Крычыць!

— Пане доктар, прыміце гэтае дзіцяня хутчэй, учора вы не прынялі... Усе пачалі плакаць: і дзіця, і маці, і хлопец, што нельга было...

Я задзерла Люсіну кашульку, на каленях паклала плазам.

— Зверху не відаць, але вось чую пад пальцамі, пане доктар. Сястра наракае, што я яе паламала. Каб было паломана, то ж плакала б, і не расла. А яна ў мяне ніколі не плача, хутка развіваецца. А я яе так люблю, два разы ў дзень купаю. А я сама прымачка. Не ў сваёй хаце жыву. Расказваў аднаму доктару сваяк пра свайго хлопчыка. У гіпсе ў шпіталі трымалі яго 3 гады і выпраставаўся...

— Калі нерв у парадку, гіпс і ёй паможа, — кажа лекар.

Ой, як сціснула мяне за душу: будзе яна мяне клясці цэлае жыццё, што я яе скалечыла. Яна так і думае. Можа я больш пажыла б на свеце, каб не гэтае дзіцяня. Я больш выплакала, чым яе маці...

Ну, прыязджае сястра. Была я ў доктара, кажу, лячыць трэба, канешне. Ты ў медыцыне робіш, забяры яе, якаясьці рада мусіць быць.

Эх, стала яна якісьці станок рабіць. Пакуль станок зрабіла — дзіцяці паўтара года. Прывязла, узяла яе на мерку — паўгода прайшло. А дзяўчынка стала ўсё разумець; год ёй было, а так добра, прыгожа гаварыла — усянютка! Прывозіць маці штосьці такое высокае, а яна ў крык: „Не хачу, не хачу гэтага! Я не хачу, мама! — Яна мяне мамай называла, як мае родныя дзеці. — Маманька, я не хачу!“

Развівае сястра тую штуку, а яна, праўда, металічная, халодная — такі варштацік. А ён не налазіць!.. Ну, заказаць трэба іншы. Заказала маці такое карытка з гіпсу. Прывалакла я тое карыцішча. Два гады дзіцяці. Яно трэба, каб ляжала, а яно будзе ляжаць, калі ўжо бегае! І так асталося калекаю...

Раілі людзі, каб да нябожчыка... то гэта не будзе знаць, ано не будзе большая расці. А Божа мой, кажа сястра: „Яшчэ яе да людзей вясці, паказваць будзем!?“ Слухай, гавару ёй, тут на вёсцы людзі бачаць, а ты ж у шпіталі працуеш, там кожны дзень ёсць нябожчыкі. Ты ў трупярні не раз можаш дакрануць да іх дзіця, а дваццаць! Не, нідзе яна з Люсяй ужо не хадзіла, нічога не рабіла. Тады сталі крычаць на яе нашы варшавякі. Завязла яна Люсю ў Варшаву. Нагледзелася на такіх калек — яшчэ горшыя ёсць! „У вас у Беластоку свае дактары“, — сказалі ў Варшаве.

І так бедная Люся засталася такая. Цяпер ёй 22 гады. Сядзіць у хаце. Калі ў школу яшчэ хадзіла, то і сяброўкі былі. Сяброўкі што — школу скончылі, павыязджалі вучыцца далей, замуж павыходзілі, сваім жыццём жывуць.

Яна ж чытае сабе ў хаце кніжкі. У горад саромецца выйсці. Як я заеду, якось намоўлю выйсці з кватэры. Выйдзем, то я так ужо іду, што яе пускаю перадам, а я так бокам, каб яе менш было відаць.

А яна ўсё: „Чаму гэтак кожны на мяне глядзіць?“ — „Люся, ты прыгожая дзяўчына“. — „Ну, прыгожая, прыгожая. Кожны, хто ідзе, вочы лупіць!“ „Нічога не зробіш, дзіцятка, мусіш з лёсам сваім пагадзіцца. Не плач. Усялякія ёсць людзі. Ты хадзі і ў краму, і на паветра выходзь... Хто што скажа — не слухай, не звяртай увагі. І хлопца сабе знойдзеш, замуж выйдзеш. Не бойся жыцця...“

Памятаю, прыедзе на канікулы да мяне ў вёску. А ў суседкі ўнучка яе, Касенька, ды Алька Чыжыкава ўлезуць у шопку, што каля калодзежа, насы высунуць праз шчыліну і ўсё на яе: — Гарбушка, гарбушка, гарбушка...

Стала Люся плакаць: „Вязі мяне дахаты ноччу, каб ніхто не

роднія і Бацікі Дальнія. У далейшым маёнтку графа Цяцерскага, што ў Баціках, у 1941 годзе памяшчаўся штаб батальёна, ён абараняў умацаваны раён на Бузе і быў састаўной часткай 62 Брэсцкага ўмацаванага раёна. І таму мне здаецца, што „Боцко" пра які гаворыць жонка загінуўшага салдата, якраз і будзе Бацікамі. Усё гэта трэба яшчэ праверыць, і ў першую чаргу разлічваю я менавіта на спагаду і дапамогу нашых чытачоў.

**Віктар Рудчык**

---

Адзіны варунак для кліентаў, які ставіць майстар, — прыносіць трэба чыстую, добра вымытую воўну. А каб яна такой была, мыць воўну перад часаннем трэба абавязкова толькі ў рэдкім мыле (такім, што прадаецца ў бутэльках, напрыклад, „кокосаль" ці іншае). Можна нават мыць у шампоне для валасоў, але ні ў якім выпадку не мыць у сціральных парашках, бо ад іх на ніткх застаюцца плямы.

Са шпулек у варштаце Янкі Чэрнякевіча воўна сыходзіць роўная і прыгожая. Да яго прыносяць апрацоўваць воўну і на світары, і на спадніцы, і на дываны. А асабліва часта — на камплекты накрыцця мэблі — на версальку, крэслы і стол.

Аб добрым, салідным рамесніку чутка па ваколіцы разыходзіцца хутка. Таму і ў Янкі няма ўжо кліентаў. Прыязджаюць з далёкіх вёсак, бо вераць, што ён добра выканае даручаную яму работу.

Апрача гэтай майстэрні ў Нарве можна ўжо знайсці таксама дапамогу ў паслугах і ў іншых майстроў. Працуюць тут ужо фатограф і каменшчык (робіць галоўным чынам помнікі), ёсць сталярня, бетанярня, слясарня.

Навучыліся ўжо людзі абляччаць сабе працу не толькі ў гарадах, але і ў меншых мясцовасцях. А дробны рамеснік выказвае даручаную яму работу са знаўствам, прафесіяналізмам і з адказнасцю. (яч)

---

бачыў!" Люсенька, няхай іх Бог пакарае, як цябе нявінна зняважыў! Пабегла я да суседкі: Утлумач сваёй Касьцы, хай яе не празывае. Табе хочацца, каб твая ўнучка прыязджала да це, таксама і мне хочацца. Я ж, кажу, гэтае дзіцятка выгадавала!..

Павязла я раніцаю Люсю ў Беласток. Больш сюды да нас дзяўчынка ўжо не прыехала...

Так мучыцца дзяўчына, пакутуе. Каб хоць якая сяброўка была. Або каб здароўе было ў вёску паехаць. Або каб хоць з сабакам выйшла пагуляць. А то — баіцца. І працаваць не можа. Не дасць рады пры сядзячай рабоце, і пры стаячай — цяжка. А вельмі добра вучылася. О! кніжак колькі. Якую не задумае кніжку, маці ўвесь свет раскалупае, каб ёй дастаць. У кніжках цэлае яе жыццё.

Кажа мне: „Цёця, я не буду жыць, вы ўжо старыя, і як мая маці памрэ, то я за ёю". —„Люся, нельга так думаць і гаварыць!" — „Ну, а каму я буду патрэбная! Хросны хацеў бы, каб я з імі жыла, а хросная — не. Цётка ўзяла б, а муж яе — не. Ну, каму я патрэбная! Навошта мне жыць?"

Люся, нельга так гаварыць...

*

Ці толькі гэта ўмеем сказаць?

**Міра Лукша**

---

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W nawiązaniu do artykułu Wiery Lewczuk „Kudy idziesz wiaskowaja szkoła" zamieszczonego w tygodniku „Niwa" z dnia 4 maja 1986 r., Kuratorium Oświaty i Wychowania w Białymstoku uprzejmie informuje, iż w Juszkowym Grodzie funkcjonuje Szkolny Punkt Filialny z klasami I—III. W bieżącym roku szkolnym uczy się w nim 13 dzieci (kl. I — 3, kl. II — 6, kl. III — 4 dzieci). W rejonie oświatowym w Juszkowym Grodzie nie ma warunków do organizowania zajęć w klasach IV——VIII ze względu na bardzo małą liczbę dzieci oraz trudne warunki lokalowe (trzy sale lekcyjne). Do utrzymania bowiem pełnej szkoły 8-klasowej potrzeba jest co najmniej 56 dzieci, zaś szkoły z klasami I—III — 21. Biorąc pod uwagę znaczne odległości z poszczególnych wsi do Juszkowego Grodu, władze oświatowe gminy Michałowo utrzymują w tej miejscowości szkołę z klasami I—III przy minimalnej liczbie dzieci.

Dzieci z klas IV—VIII z obszaru oświatowego Juszkowego Grodu dowożone są autobusem szkolnym do Szkoły Podstawowej w Szymkach. Autobus zabiera uczniów o godz. 6.30 z Juszkowego Grodu i przywozi do Szymek na godz. 7.00 Od tego czasu funkcjonuje świetlica szkolna, w której dzieci oczekują na rozpoczęcie zajęć szkolnych. W czasie pobytu uczniowie w szkole spożywają obiad składający się z dwóch dań. Po lekcjach, pod kierunkiem wychowawcy, uczniowie odrabiają pracę domową w świetlicy szkolnej, z której o godz. 14.35 odwożone są do domu.

Kuratorium Oświaty i Wychowania w Białymstoku zdaje sobie sprawę, że uczniowie są długo poza domem, ale zrobiono wszystko, aby młodzież znajdowała się pod troskliwą opieką w czasie pobytu w szkole i w podróży. Innego rozwiązania nie widzi się ze względu na brak określonej liczby dzieci oraz warunków lokalowych w Juszkowym Grodzie do zorganizowania pełnej szkoły 8-klasowej.

Kuratorium Oświaty
i Wychowania
w Białymstoku
Wicekurator Oświaty
i Wychowania
mgr **Zbigniew Kamionowski**

---

# СОННІК

27

**Гарачка** (тэмпература) — жаданне прыгодаў.

**Гарбата** (чай) **піць** — лёгкае захворванне; заварваць — элегантная кампанія.

**Гарбуз** — невядомы праціўнік; есці — хвароба.

**Гардэроб**, строі — марна патрачаныя грошы.

**Гармата** — подласць і рабалепства; некалькі ці многа — непрыемная звестка.

**Гарнастай** — багацце і пашана.

**Гарнізон** (вайсковы) — новая ініцыятыва; пашана і ўзвышэнне.

**Гарняк**, шахцёр — непрыемная гасціна.

**Гарох** есці — ціхае шчасце ў каханні; бачыць, збіраць, лупіць — дабрабыт, весялосць, павелічэнне багацця; цвіце — удача ў працы, па гаспадарцы.

**Гарсет** — адкрыеш таямніцу.

**Гарчыца** — будзеш пакутаваць з-за чужой абмовы; нарыхтаваная да яды (муштарда) — табе пагражае вялікая прыкрасць.

**Гаршкі** — павелічэнне багацця; разбіць — цяжкія часы; начны гаршчок — твае патрэбы будуць задаволены.

**Гарэлка** піць — непамяркоўнасць табе пашкодзіць.

**Гаспадар** (селянін) — навіны.

**Гаспадарка** вялікая — небяспечныя ворагі; малая — бязвінная радасць.

**Гасіць** пажар — шчасце; заспакойваць смагу — доўгае жыццё; гасіць святло — надзеі, якім збыцца не дазволяць іншыя.

**Гасціна** — праміна́ючыя клопаты.

**Гасцінец**, шлях — ісці ім — знойдзеш сродкі для жыцця; ехаць — многа грошай; доўгі — цяжкое жыццё.

---

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка, ратуй! Куды ні гляну, дзе не павярнуся — ліпнуць да мяне дзяўчаты, як мухі на мёд. Толькі ўсміхнуся — ужо мая. Часамі нават хочацца аднаму пабыць, з хлопцамі, кудысьці выйсці, дык жа не! Не дадуць спакою. Заўсёды дзесьці нейкая знойдзецца, што прыліпне. Ну, а пасля толькі клопат.

Апошні раз усміхнуўся я адной дзяўчыне на пошце. Ну, пагаварыў мінут дзесяць аб тым, аб сім, дагаварыліся сустрэцца. Сустрэліся адзін раз, больш мне неяк не хацелася, а праз месяц звоніць яна мне. І паведамляе нейкім трывожным голасам, што мусіць абавязкова са мной сустрэцца. Нешта мяне цюкнула. Ну, думаю, прапаў!

Але па тэлефоне яна нічога больш не хацела сказаць. Дагаварыліся сустрэцца ў мясцовай кавярні. Страшны гэта быў для мяне дзень. Жыццё нямілым стала. Вядома, дзяўчына паведаміла мне, што зацяжарыла. Прасіла, каб я ажаніўся з ёю. Толькі для вока, для людзей, каб не гаварылі, а пасля разыйдземся, казала мне.

Але як жа ж бы меў я з ёю жаніцца, калі яна мне зусім незнаёмая... І што мне рабіць, дарагое Сэрцайка? Яна ж сказала, што цяжарнасці не перарве, бо гэта першы раз і пасля магла б дзяцей не мець, так што ў кожным выпадку дзіця будзе радзіць.

Што мне, беднаму, цяпер рабіць? Куды падзецца, бо найахвотней то я б уцёк, куды вочы глядзяць. Тым больш, што я нават не ўпэўнены, што гэта дзіця маё!

**Дабіты Юрка**

Дык як гэта ты, Юрка, да незнаёмай палез у ложак, ці што? Бо хіба ж ад усмешкі тваёй яна не зацяжарыла?!

Колькі мне было вядома дагэтуль, у ложку спяць разам вельмі

**(Працяг на стар. 11)**

---

## ДБАЙНАСЦЬ

Будынкі Аляксея Навіцкага, што жыве ў Літвінавічах (гміна Нурэц), за вёскаю, вабяць вока. Мураваны дом і летняя кухня прыгожа памаляваны ў нейкія разнаколерныя квадраты і палоскі. Ён сам і будаваў, і маляваў. Іншыя будынкі таксама эстэтычна выглядаюць. Тут і вакол сялібы парадак. Усё мае сваё месца, а прыгожая агароджа памалявана таксама з густам.

— Не люблю я шарасці, — кажа Навіцкі, — і імкнуся ўпрыгожваць сваё гняздо. Лягчэй дыхаецца, калі яно табе падабаецца.

А як гаспадарыць Аляксей Навіцкі са сваёй жонкай Зосяй? Маюць яны 6 га зямельных угоддзяў, але там толькі 3 гаворнай зямлі. Другія 3 га — гэта сенажаць і паша. Гадуюць яны 7 штук быдла, 3 авечкі, 2 свінні, каня і, як усе сяляне, шмат курэй.

На яго полі прыгожа красуецца збожжа і відаць ужо, што будзе там добры ўраджай.

**Міхась Хмялеўскі**
**Фота аўтара**

---

## ПЕРАПРАШАЕМ!

Арганізатарамі вельмі цікавай і каштоўнай для нашага рэгіёна навуковай канферэнцыі „Беласток у непасрэдным аглядзе і ў святле сацыялагічных даследаванняў" 26-27 мая г.г. былі **Інстытут грамадскіх навук Філіяла Варшаўскага універсітэта, Польскае сацыялагічнае таварыства і Гарадская ўправа горада Беластока.** Канферэнцыя адбылася ў памяшканні Беластоцкай палітэхнікі. Душой гэтай вельмі патрэбнай ініцыятывы быў дац. д-р **Андрэй Садоўскі.** Просім прабачэння, што праз наўвагу была дапушчана недакладнасць у артыкуле „Вучоныя пра Беласток" („Ніва" № 26 ад 29 чэрвеня г.г.).

**Рэдакцыя**

# Расклад
## руху аўтобусаў ПКС са станцыі Бельск Падляшскі

| Прыезд | Кірунак | Стаянка | Ад'езд |
|---|---|---|---|
| | Градочна, Нараў<br>АДРЫНКІ цераз | 4 | 5.00 |
| 18.30 | АДРЫНКІ<br>ц. Нараў | 4 | |
| 6.20в, 17.30 | АЛЬШЭВА<br>ц. Бадакі | 5 | 4.50, 16.00в |
| 6.15ав, 6.49в, 7.46, 7.17с, 7.47сзк, 8.37с, 9.35, 9.45а, 11.05с 11.37с, 12.25, 13.35, 14.15, 14.35, 14.47с, 15.15, 15.21ев, 15.44, 15.47се, 16.05, 16.14, 16.15, 17.36а, 17.51е, 18.20сіл, 18.45, 21.55е, | БЕЛАСТОК<br>ц. Заблудаў | 1 | 5.35в, 6.25ев, 6.55в, 7.40с, 7.50, 7.55ав, 8.40, 8.53се, 9.25а, 9.55, 10.00, 10.25ш, 11.05с, 12.30е, 13.00, 13.25, 13.45, 14.40ав, 15.15в, 15.45д, 16.10а, 17.28с, 18.20іл, 18.30е, 18.50, 18.55, 19.00с, 22.15 |
| 9.44, 11.14е, 14.54е, 15.24д, 16.34ме, 16.54, 22.14, | БЕЛАСТОК<br>ц. Юхновец | 1 | 4.30, 7.35в, 8.10, 11.15, 12.00е, 16.50ме |
| 15.38 | БЕЛАСТОК<br>ц. Орлю, Кожына | 3 | 6.00 |
| 8.27, 11.37, 16.34д, 21.47 | БЕЛАСТОК<br>ц. Мулявічы | 1 | 8.15, 17.00 |
| 16.41в | БЕЛАСТОК<br>ц. Пасынкі, Кожына | 4 | 8.15 |
| 17.57е | БЕЛАСТОК<br>ц. Бранск, Лапы | 4 | 5.55в |
| 8.49а | БЕЛАСТОК<br>ц. Вышкі, Лапы | 4 | 14.15а |
| 7.54а, 9.13а, 11.34, 15.13, 16.54а, 18.25 | БЕЛАСТОК<br>ц. Рэпнікі | 1 | 5.15а, 8.20аб, 11.45, 14.00а, 15.25 |
| | БЕЛАВЕЖА<br>ц. Гайнаўку | 3 | 5.45 |
| 18.44 | БЕЛАВЕЖА<br>ц. Гайнаўку, Буды | 3 | 7.50 |
| 7.39в, 11.43, 16.38 | БРАНСК<br>ц. Кашэва | 5 | 6.00в, 10.00,15.00 |
| 8.19а, 14.34мб, 16.34 | БРАНСК<br>ц. Кадлубоўку | 5 | 13.10мб, 15.15 |
| 5.48 | БРАНСК<br>ц. Вышкі, Гадышэва | 4 | 17.00 |
| 10.05, 18.15ілс | БЕЛАЯ ПАДЛ.<br>ц. Сямяцічы | 2 | 7.50зкс, 12.00 |
| 15.50 | БОЦЬКІ<br>ц. Бадакі | 5 | 14.10 |
| 7.34в, 9.19а, 9.49, 10.49д, 12.44, 13.44а, 16.04а, 19.35 | ЦЕХАНОВЕЦ<br>ц. Бранск | 5 | 6.20ав, 7.30ав, 8.45а, 10.40а, 13.10а, 13.50д, 15.25ев, 16.45 |
| 9.08 | ХРАБАЛЫ<br>ц. Вышкі | 4 | 13.30 |
| 15.48 | ХРАБАЛЫ<br>ц. Стрыкі, Вышкі | 4 | 6.45 |
| 13.26 | ДУБІЧЫ ЦАРК.<br>ц. Орлю, Мора | 3 | 12.00 |
| 9.15а, 15.55а | ДУБІЧЫ ЦАРК.<br>ц. Орлю, Рудку | 3 | 7.50а, 14.30а |
| 7.26в | ДРАГІЧЫН<br>ц. Гродзіск | 2 | 16.20 |
| 6.43в | ГАДЫШЭВА<br>ц. Вышкі, Фалькі | 4 | 14.30в |
| 16.35 | ГАДЫШЭВА<br>ц. Вышкі | 4 | 4.40 |
| 6.34, 9.57ш, 11.39, 13.09 | ГАЙНАЎКА<br>ц. Галады | 3 | 10.45. 11.50, 12.35, 14.00, 17.00 |
| 7.34ав, 10.49аб, 14.19ав | ГАЙНАЎКА<br>ц. Локніцу | 4 | 8.15а, 14.30ав |
| 17.52в | ГАЙНАЎКА<br>ц. Кленікі, Чыжы | 3 | 5.25 |
| | ГАЙНАЎКА<br>ц. Кляшчэлі | 3 | 12.20а |
| | ГАЙНАЎКА<br>ц. Нараў | 4 | 4.20а |
| | ГАЙНАЎКА<br>ц. Орлю, Дубічы Царкоўныя | 3 | 5.25, 15.30в |
| 16.57, 19.27 | ГАЙНАЎКА<br>ц. Тыневічы Мал. | 4 | 4.50аб |
| 9.18а, 17.33а | КЛЯШЧЭЛІ | 3 | 16.10а |
| 9.24, 16.34 | КРАСНАЕ СЯЛО | 3 | 8.10, 15.20 |
| 11.00с, 18.55с | ЛЮБЛІН ц. Белую Падл. | 2 | 7.20с, 14.50с |
| 7.45в | ЛАПЫ ц. Бранск | 5 | 14.20ав |
| 7.21 | ЛАПЫ ц. Пульшы, Вышкі | 5 | 5.00а |
| 7.15вг, 10.35г, 15.40вг | МІЛЕЙЧЫЦЫ<br>ц. Боцькі, Сабятын | 2 | 7.25вг, 13.35 |
| 5.45а, 6.30в, 7.35ав, 11.05, 13.10, 17.00е | НАРАЎ ц. Кленікі | 4 | 4.00а, 5.45а, 7.50, 11.15, 15.10ев, 16.15в, 18.40 |
| 9.58, 14.43 | НАРАЎ<br>ц. Градочна | 4 | 12.25г |
| 5.23а, 6.13а, 10.48, 12.28д, 14.53, 20.33, 23.03 | ОРЛЯ | 3 | 4.40а, 5.30а, 10.00, 11.30д, 13.50, 19.45, 22.20а |
| 14.04а | ОРЛЯ ц. Спічкі | 3 | 13.15а |
| 7.29в, 20.44 | ПЛЁСКІ<br>ц. Храбалы | 1 | 8.10а, 12.15а, 14.30в |
| 9.09а, 13.14а, 15.29 | ПЛЁСКІ<br>ц. Пасынкі | 4 | 6.30в, 19.45 |
| 8.25г, 14.25г | ПЕТШЫКОВА | 2 | 7.50г, 13.50г |
| 6.24в | РУДКА ц. Бранск | 5 | 16.20в |
| 17.32а | РЫБАКІ ц. Нараў | 4 | 5.30а |
| 7.38в, 17.53 | РЭДУТЫ ц. Орлю, Спічкі | 3 | 6.35в, 16.50 |
| 7.48аб, 13.53аб | РАЙСК ц. Храбалы | 1 | 6.55аб, 13.00аб |
| 20.43а | ШЭПЕТОВА<br>ц. Бранск | 5 | 17.50а |
| 8.50ес, 17.25с | СЕДЛЬЦЫ<br>ц. Сямяцічы | 2 | 8.40с, 15.50ес, 17.55 |
| 5.15а, 6.05ав, 6.35в, 7.30в, 7.35с, 7.45ав, 8.35, 10.45, 12.25е, 13.20, 14.35ав, 15.20, 16.40в, 18.15, 18.50 | СЯМЯЦІЧЫ<br>ц. Дзядковіцы | 2 | 5.25ав, 6.20ав, 8.00, 9.50а, 10.00, 10.50, 11.00, 11.40с, 13.45в, 14.40, 15.15в, 16.20, 22.20 |
| 6.23ев, 6.43ав, 7.39, 15.58в | СЯМЯЦІЧЫ<br>ц. Кляшчэлі | 3 | 7.00ев, 8.00а, 15.50, 17.05 |
| 7.45в, 14.20г | СЯМЯЦІЧЫ<br>ц. Бранск, Гродзіск | 5 | 8.00, 14.40в, 17.40а |
| 7.16авг, 9.36аг | СЯМЯЦІЧЫ<br>ц. Сабятын | 2 | 11.35аг, 15.55вг |
| 8.25в, 13.55 | СЯМЯЦІЧЫ<br>ц. Боцькі, Сельц | 2 | 9.00,14.20 |
| 11.48г | СЯМЯЦІЧЫ<br>ц. Боцькі, Выганова | 2 | 18.40г |
| 8.36аш, 16.45 | СТРЫКІ | 4 | 8.00аш, 16.10 |
| 7.53в | СТАРЫ КОРНІН<br>ц. Орлю | 3 | 6.50 |
| 7.37, 15.57 | СТРАБЛЯ | 1 | 6.40, 15.00 |
| 16.17а | ТАПІЛА<br>ц. Гайнаўку | 3 | 5.55ав |
| 11.18а | ТАПЧЭВА<br>ц. Вышкі | 4 | 9.40а |
| 11.00, 14.45 | ТАПЧЭВА<br>ц. Буйнова | 5 | 9.00, 12.45 |
| 7.45авб | ТЫКАЦІН<br>ц. Лапы, Саколы | 4 | 15.15 |
| 18.46дс, 20.36с | ВАРШАВА<br>ц. Востраў Маз. Вышкаў | 5 | 5.30дс, 7.10с |
| 17.37 | ВЫС. МАЗ.<br>ц. Лапы, Саколы | 4 | 5.30в |
| 9.01 | ВЫШКІ ц. Лубін Касцельны | 4 | 7.50 |
| 14.56 | ВЫШКІ<br>ц. Аўгустова | 5 | 13.45 |
| 9.27 | ВОЙНАЎКА<br>ц. Орлю, Дубічы Царк. | 3 | 7.40в |

а — ходзіць у рабочыя дні
б — ходзіць у рабочыя суботы
в — першынство для пасажыраў з месячнымі білетамі
г — ходзіць, калі добрая дарога
д — не ходзіць: 1986.12.25. 1987.01.01 і 1987.04.19
е — не ходзіць: 1986.12.25 і 1987.04.19
ж — не ходзіць у дні дадаткова вольныя ад работы
з — ходзіць у панядзелкі
і — ходзіць у пятніцы
к — ходзіць у суботы
л — ходзіць у нядзелі
м — ходзіць у святы і нядзелі
ш — школьны
с — скоры

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ



Удзельніцы конкурсу беларускай песні з Райска. Фота Я. Чэрнякевіч.

## СЯБРОЎСТВА

Здарылася гэта, калі я яшчэ вучылася ў трэцім класе ліцэя. На каляду вярнулася са школы і ўбачыла ў хаце маленькага шчанюка. Поўсць на ім была карычневая, а сам ён нагадваў невялічкі шарык. Таму я і назвала яго Шарыкам. А прынёс яго да нас мой брат ад суседа.

Апрача Шарыка, было ў нас яшчэ два каты — кот Сіўка і кошка Мурка.

Шарык чамусьці адразу неўзлюбіў Мурку. Як толькі яна да яго набліжалася, ён пачынаў брахаць. А Сіўку шчанюк палюбіў. Разам з ім спаў на падлозе, калі кот не хацеў спаць на печы. З адной міскі елі. Нават разам гулялі. Здавалася б, дружба — не разлій вадой.

Але аднойчы Шарык захварэў. Не хацеў есці, ані піць, не меў сілы гуляць з катом. Ён моцна схуднеў, поўсць пачала выпадаць. Цэлымі днямі ляжаў ён, як палена. Лячылі мы яго, як маглі. Здавалася, ніштo яму ўжо не паможа. Але Шарык выжыў.

Калі хварэў Шарык, каты захоўваліся па-рознаму. Сіўка наогул не звяртаў на хворага таварыша ўвагі, а Мурка, як толькі вернецца з прагулкі, дык не адыходзіць ад Шарыка. Спачатку шчанюк нават адварочваўся ад яе, не хацеў у яе бок глядзець, заплюшчваў вочы. Але Мурка сядзела каля яго і нават спаць клалася побач.

Так прайшоў месяц. Шарык паволі выздараўліваў. Мурка заўсёды была каля яго. І Шарык цяпер ужо адносіўся да яе інакш. Не вурчаў на яе, не адварочваўся, а калі тая клалася каля яго, абдымаў яе худымі лапамі. Жылі цяпер яны як брат з сястрою.

Прыйшла доўгачаканая вясна. Зазеленелі дрэвы. Шарык здаваўся здаровым.

Вырашылі мы яго выпусціць на двор. У першы момант Шарык не ведаў, што рабіць. Бегаў, бегаў, пакуль не замарыўся. Потым лёг. Але ляжаць доўга не давялося. Убачыўшы Сіўку, кінуўся за ім з брэхам, аж загнаў на страху клуні. Потым вярнуўся на сваё месца. Але тут ён убачыў Мурку. Падбег да яе, і яны пачалі дружна гуляць.

Калі ж Мурцы надакучыла гульня, яна пачала ўцякаць. Шарык пабег за ёю. Так дабеглі яны да грушы. Кошка спрытна ўскочыла на дрэва, а сабачка хацеў зрабіць тое самае, але не змог. Пачаў тады бегаць вакол дрэва з задзёртай галавою і брахаць, быццам хацеў сказаць: чаго ты там сядзіш, калі бачыш, што я не магу ўзлезці?

Але кошка, відаць, не мела ахвоты ўжо бавіцца, таму спакойна сядзела на дрэве. Так паўтаралася амаль кожны дзень.

Дружба Шарыка з Муркай аказалася вельмі трывалай. Працягвалася яна тры гады.

Аднойчы Мурка знікла. Шарык пасмутнеў. Ён часта выбягаў з двара і бегаў на пошукі сяброўкі.

Мама, баючыся, каб не прапаў і сабака, залажыла яму на шыю ланцуг. Гэта не памагала. Ша-

(Працяг на стар. 10)

Эвеліна Умэк

## АЛЕНЧЫНЫ ХІТРЫКІ

Аленчына сястра Маня канчае сярэднюю школу. Аленка часта бачыць, як Маня стаіць з дзяўчаткамі і хлопцамі і весела размаўляе. А на Аленку зусім не звяртае ўвагі, як бы яна не была яе сястрой. Наадварот, захоўваецца так незалежна, быццам у яе сам кароль свіней пас. Некаторыя хлопцы і нават дзяўчаты часам кураць папяросы.

Крыўдна Аленцы, што яе не заўважаюць.

І раз Аленка паскардзілася маці:

— Мама, ці Мані можна курыць?

Аленка чакае, што скажа мама. Але мама спакойна палошча бялізну, быццам яе і не чула.

— Ці ты была б задаволена, каб яна таксама курыла?

Маці маўчыць. Аленка ведае, што маці думае.

— Ведаеш, мама, калі цябе няма побач, яна стаіць з хлопцамі і дзяўчатамі, а на мяне зусім не звяртае ўвагі.

— Маня старэйшая за цябе, не трэба ўвесь час каля яе круціцца, — раіць маці.

„Мама нічога не разумее", — думае Аленка. Яшчэ нядаўна Маня толькі з ёй гуляла...

— Можа яна і не курыць, — кажа Аленка, — але яна, пэўна, закахалася?

Маці паглядвае на Аленку крадком і пасмейваецца.

„Сёння мама зноў нічога не разумее", — думае Аленка і ў падскоках пакідае лазенку.

## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

Данута Бічэль-Загнетава

### ХМАРА

Між нябёсамі
і лясамі
ведзьма
з мокрымі валасамі
прэцца
і не можа спыніцца.

Ступа-гром,
палае спадніца,
засцілае свет
падалом.
Замятае след
памялом.

### КОТ-ПІРАТ

Коцік сплёў лазовы кошык,
прыхаваў за пояс ножык
і адправіўся
нібы
ў лес па шчырыя грыбы.

Каля дуба:
— Ой баліць
і сярэдзінка й жывот!
Лёг.
Надумаўся злавіць
папаўзня манюка-кот.

Попаўзень
лячыў той дуб,
з-пад кары выпуджваў
мошак.

Не залез манюку ў кошык,
не папаўся і на зуб.

### ЦЁЗКІ

Рома ўзлез на ясень,
там убачыў Ясь:
— Ты чаго на ясені?
— То ж абодва Ясі мы.
Гэта мой зялёны цёзка.
Перад намі —
наша вёска.

### НЯЎДАЛІЦА

За карэньчык зачапіўся,
тры разы перакуліўся,
дакаціўся б аж да зорак,
але скончыўся пагорак.

### КАРУСЕЛЬ

Падышлі да каруселі,
з сябруком
на пару селі...
То ў прадонне,
то ў аблокі!

— Ад мяне адны абломкі!
Я спужаўся...
— Не стагні!
Злазь!
— Яшчэ раз крутані!

### КРАПІВА

Не кажы
сябрам няпраўды,
не ілжы —
урадзіла крапіва
на мяжы.

Калі ты зманіла,
на двары
ад мамы цябе адвучаць
сябры.

Крапівою, крапівой
па назе —
будзеш праўду гаварыць,
як усе!



**·А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А·**

**Параўнай карцінкі. На другой, трэцяй і чацвёртай кожны раз не хапае шасці дробных дэталяў у параўнанні з першай карцінкай. Знайдзі гэтыя адрозненні.**

Юлій Ванаг

## ЛЕТА

Яблыні скінулі прыгожыя веснавыя ўборы.

На галінках, дзе былі кветкі, ужо зелянеюць маленькія плады.

Ночы цёплыя і душныя.

Нават з расчыненым акном душна.

Адзіны ратунак — рака!

Мікінь бегае купацца раніцай і вечарам, апоўдні і пасля поўдня. Вада цёплая, як сырадой.

Галаўні пахаваліся ў глыбіні віроў. Іх не выманіш адтуль нават самай лепшай прынадай.

Вечарам на ўзлессе выходзіць лось. Ён узнімае рагатую галаву, аглядае наваколле, потым пачынае капацца ў мяккай лугавой траве, ратуючыся ад машкары і аваднёў, якія так балюча кусаюцца...

## ДОЖДЖ

Усё вакол акутана шэрым туманам. Цёплы летні дожджык імжыць ужо з самай раніцы.

Людзі радуюцца дажджу. Не трэба будзе паліваць сады і агароды.

І касцам лягчэй. Яны выйшлі на прыазёрныя лугі, куды нельга пусціць касілку. Услед за касцамі сцелюцца шырокія пракосы сакавітай травы.

Бацька Мікіня косіць са сваёй брыгадай. Ён ідзе першы. Спыняецца, каб памянташыць касу і з усмешкай гаворыць:

— У дождж скосіш — пры сонейку ў стагі складзеш!

Звіняць косы. А воддаль на шырокім лузе стракочуць касілкі.

Толькі грабцам пакуль што няма чаго рабіць. Яны вешаюць граблі пад стрэхі хлявоў і адрын і ідуць на іншую работу.

Мікінь спяшаецца да свайго прыяцеля, старога Андрыевіньша, і запрашае яго парыбачыць. Учора ён налавіў зялёных конікаў. Вялізныя! Лепшая прынада для галаўнёў і язёў...

— Добра, — згаджаецца Андрыевіньш. — У такі дзень нічога лепшага не прыдумаеш. Сыпле, як у грыбную пару...

І абодва з вудамі на плячах падаюцца да ракі.

**Урыўкі з кнігі „Вялікія справы маленькага Мікіня". Пераклад з латышскай мовы У. Яцко**




### З ГІСТОРЫІ ХЛЕБА

Са старажытных хронік вядома, што 8 тысяч гадоў назад вандроўныя плямёны Блізкага Усходу пачалі займацца земляробствам. Яны апрацоўвалі зямлю драўлянай матыкай і вырошчвалі збожжа.

Цяперашні хлеб, які мы ведаем зараз, пачалі выпякаць старажытныя егіпцяне. Для гэтага яны склалі конусападобную печ, раздзеленую на дзве часткі. У ніжняй частцы распальвалі агонь, а ў верхнюю клалі цеста. Звычайна печ пачыналі паліць вечарам, хлеб пяклі ўсю ноч. У тыя часы боханы рабілі круглыя, вагою каля 8 кілаграмаў.

Аднойчы раб фараона забыўся распаліць печ, а другі не заўважыў гэтага, паклаў у яе цеста і шчыльна закрыў дзверкі. На другую раніцу рабы спалохаліся, убачыўшы вынікі сваёй няўважлівасці. Да таго ж цеста выглядала дзіўна: яно паднялося і незвычайна пахла. Так упершыню быў атрыманы хлеб з кіслага цеста.

* * *

Калі нямецкі кайзер Фрыдрых Вільгельм I з сынам у 1730 годзе наведаў Дрэздэн, пекар Цахарый у яго гонар выпек каравай у 18 локцяў даўжыні, 8 локцяў шырыні і 1 локаць вышыні. На гэта пайшло 18 пудоў мукі, 3 фунты мускатнага арэху, 5 пудоў цукру. Каб спячы такі вялікі каравай, на адкрытым полі склалі печ адпаведнай велічыні і зрабілі прыстасаванне, пры дапамозе якога можна было форму апусціць у печ і выцягнуць. Нарэшце вялікі каравай быў урачыста адвезены ў палац, дзе яго і з'елі.

* * *

У Англіі 18 жніўня 1864 года спяклі бабку вагою ў 630 кілаграмаў. На гэта пайшло 200 кілаграмаў мукі, 15 кілаграмаў разынак, 15 кілаграмаў міндалю, 100-125 кілаграмаў цукру, 5 літраў лімоннага соку, 5400 яек і 50 кілаграмаў розных прыпраў.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Эльжбета Госцік, вучаніца 5 класа, 16-050 Міхалова, вул. Сянкевіча 1/30, Беластоцкае ваяводства.

* * *

СССР, 366555, Ростовская обл., г. Шахты, пос. Майский, ул. Безымянная, 16-21. Истоминой Лене. 5 клас.

* * *

СССР, 344041, г. Ростов-на-Дону, ул. Линейная, 29, Приходько Галине. 7 клас.

* * *

СССР, 163012, г. Архангельск, ул. Мичурина, 1а, кв. 1. Акименко Кате. 5 клас.

* * *

СССР, 346514, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Цветочная, 1. Алексееву Саше. 4 клас.

* * *

СССР, 346538, Ростов-на-Дону, ул. Ленина, 48, кв. 204. Карпачёва Виктория. 5 клас.

* * *

СССР, 344080, Ростов-на-Дону, ул. Российская, 46а, кв. 10. Омельченко Наташе. 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 84, к. 2, кв. 10. Наташа Кабяк, 2 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 96, кв. 4. Наташа Шырытон, 2 клас.

* * *

БССР, 220050, г. Мінск-50, вул. К. Цэткін, 14, кв. 2. Аня Дубавік, 2 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36. вул. Волаха, 3, к. 1, кв. 19. Таня Трукшанава, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 9, к. 2, кв. 37. Юля Швабовская, 2 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 9, к. 1, кв. 12. Наташа Векшына, 2 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 4, кв. 27. Наташа Васілеўская, 2 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 8, кв. 34. Алёна Лазута, 2 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Р. Люксембург, 90, кв. 32. Наташа Даўнаровіч, 2 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 63, кв. 12. Таня Булах, 3 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Волаха, 23, кв. 14. Наташа Рыжык. 5 клас.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 81/40, кв. 2. Саша Анісавец, вучань 4 класа.

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. Каржа, 8, кв. 4. Ігар Данілюк, 4 клас.

* * *

БССР, 220055, г. Мінск-55. пр. Известий-1, д. 4, к. 2, кв. 167. Наташа Швец, 6 клас.

(Працяг са стар. 9)

**СЯБРОЎСТВА**

рык часта зрываўся і ўцякаў. Аднойчы доўга яго не было. Мы ўсе думалі, што і з Шарыкам нешта здарылася. Але Шарык вярнуўся, хоць моцна кульгаў. Задняя нага ў яго была акрываўлена. Сам быў вельмі худы. У хаце праляжаў яшчэ тыдзень. Нічога не еў і не піў. Так і памёр.

**Аўрора**

### ВЫШЫВАЙ КРЫЖЫКАМ

Многія з вас умеюць прыгожа вышываць. А хто яшчэ не навучыўся, няхай папросіць маму, цёцю, бабулю ці сяброўку, каб паказала, як можна прыгожа вышываць крыжыкі. Вось узор на сурвэтку. Такія ж кветачкі можна вышываць і на блузцы, але для гэтага патрэбна спецыяльная сетка-канва, каб крыжыкі былі роўныя. Часам можна знайсці матэрыял з выразным перапляценнем нітак, і тады лягчэй бачыцца клеткі і можна вышываць без сеткі. Раю спрабаваць. Можна зрабіць прыгожы падарунак сяброўцы ці сваім блізкім.

Прыемнай работы.





Адрас рэдакцыі: „Зорка" 15-950 Białystok ul. Wesołowskiego 1

# TELEWIZJA WARSZAWA

**Piątek 4 VII** — 9.00 Teleferie najmłodszych — Fasola. 9.30 Kino Teleferii: „Urwisy z Doliny Młynów" — pol. film fab. 10.00 DT. 10.10 Film dla II zmiany: „Krewniacy" — film radz. 11.45 Savoir vivre, czyli jak się zachować. 12.10 „Kraina spełnionych niemożliwości" odc. 1 „Papierowe zamki" — film. 12.30 Znaki zapytania. 17.00 Program ekonomiczny. 17.20 DT. 17.30 Studio Sport — Przed Igrzyskami Dobrej Woli. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.00 Monitor Rządowy. 20.30 „Krewniacy" — radz. film. fab. 22.05 DT. 22.30 Kontakty. 23.00 DT.

**Sobota 5 VII** — 8.30 Tydzień na działce. 9.00 Kino Teleferii: „Tajemnica Dzikiego Szybu" — pol. film przyg. 10.30 DT. 10.40 Stare, nowe, najnowsze. 12.10 W świecie ciszy. 12.40 TV Koncert Życzeń. 13.10 Za kierownicą. 13.40 Opowieści biblijne (8) — pol. film dok. 13.55 Królowie mórz — film dok. 14.25 Azymut. 14.55 DT. 15.00 Studio Sport — Igrzyska Dobrej Woli — Moskwa 86. 16.45 TV Informator Wydawniczy. 17.05 Klub sześciu kontynentów. 17.50 Losowanie Dużego Lotka. 18.00 Błękitna. 18.30 TV Klub Młodych — Promocje. 19.00 Dobranoc. 19.10 Z kamerą wśród zwierząt. 19.30 Dziennik. 20.00 „Robert i Robert" — franc. film fab. 21.40 Czas. 22.30 Siedem dni na świecie. 22.40 DT. 22.50 Studio Sport — Igrzyska Dobrej Woli — Moskwa 86. 0.35 Kino nocne.

**Niedziela 6 VII** — 7.10 TTR — s. II — Zajęcia wakacyjne: Technologia produkcji żywca wieprzowego. 7.30 TTR — s. IV — Zajęcia wakacyjne: Architektura wiejskiego gosp. rolnego. 7.50 Po gospodarsku. 8.15 Tydzień. 9.00 Kino Teleferii: „Rycerz Czerwonego Serduszka" — pol. film anim. 10.05 Ocalić od zapomnienia. 10.30 DT. 10.35 Dzieje zamków — franc. film dok. 11.35 „Wydra zwana Tarką" — ang. film fab. 13.05 Siedem anten. 13.50 TV Koncert Życzeń. 14.35 Kraj za miastem. 15.00 DT. 15.05 „Król puszczy" — TV film dok. 15.50 Studio 1. 18.20 Antena. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.00 „Powrót do Edenu" (8) — austral. film obycz. 20.50 Pegaz. 21.35 Kalejdoskop. 22.10 Studio Sport — Igrzyska Dobrej Woli — Moskwa 86. 23.40 DT.

**Poniedziałek 7 VII** — 17.10 Program dnia. 17.15 Magazyn „17.15". 17.30 Program relaksowy. 19.00 Zajęcza nocka nr 6. 19.30 Dziennik. 20.00 Rozmowa na telefon (1). 20.15 Letni Przegląd Teatru TV: W. Filler i J. Kofta — „Wielki Dodek". 21.40 Żniwa 86. 21.50 DT. 22.10 Rozmowa na telefon (2). 22.25 Studio Sport — Igrzyska Dobrej Woli — Moskwa 86. 24.00 DT.

**Wtorek 8 VII** — 8.55 Domator. 9.00 Teleferie TDC — „Podniebne wakacje" oraz „Dżokej Monika" (3) — film prod. NRD. 10.00 DT. 10.10 Kronika Igrzysk Dobrej Woli. 10.20 Film dla II zmiany: „Palec boży" — film pol. 11.40—13.00 Magazyn domatora. 11.45 Z myślą o zimie. 12.05 Na leżaku i w fotelu. 12.15 „Terra „X" (1) Morze Południowe — serial dok. prod. RFN. 16.30 Program dnia. 16.35 XX Festiwal Piosenki Żołnierskiej — Kołobrzeg 86. 17.05 Człowiek dla człowieka. 17.15 Magazyn „17.15". 17.30 Program relaksowy. 19.00 Zajęcza nocka nr 7. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 „Palec boży" — pol. film fab. 21.45 DT. 22.05 TV Informator Wydawniczy. 22.20 Studio Sport — Igrzyska Dobrej Woli — Moskwa 86. 0.15 DT.

**Środa 9 VII** — 8.55 Domator. 9.00 Krąg — mag. harcerzy. 9.30 Kino Teleferii: „Dżokej Monika" (4) — film NRD. 10.00 DT. 10.10 Kronika Igrzysk Dobrej Woli. 10.20 Film dla II zmiany: „Republika Ostrowska" (6). 11.15 Wędkarstwo dla początkujących. 11.25 Zielono nam. 11.35 Ziółka, ziółka. 11.40 Encyklopedia tatrzańska. 12.00 „Jedno lato trzmiela" — film monograficzny. 12.15 Gotujemy na urlopie — pr. publ. 17.10 Program dnia. 17.15 Magazyn „17.15". 17.30 Program relaksowy w tym losowanie Ex. Lotka i Super Lotka. 19.00 Zajęcza nocka nr 8. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 „Republika Ostrowska" (6) — film pol. 21.10 Żniwa 86. 21.20 DT. 21.40 Wyniki Totalizatora. 21.45 XX Festiwal Piosenki Żołnierskiej — Kołobrzeg 86 — Koncert solistów i zespołów amatorskich. 22.45 Studio Sport — Igrzyska Dobrej Woli — Moskwa 86. 24.00 DT.

**Czwartek 10 VII** — 8.55 Domator. 9.00 Kino Teleferii: „Don-Kichot, szlachcic z Manczy" — serial hiszp. 10.00 DT. 10.10 Kronika Igrzysk Dobrej Woli. 10.20 Film dla II zmiany: „Głowa Tereona" — prod. radz. 11.45 Szkoła dla rodziców. 12.00 Dziękuję, nie palę — wid. publ. 12.15 Wakacyjna apteczka. 12.25 Bliżej prawa — pr. poradn. 12.40 W kręgu domowego ogniska — pr. publ. 13.05 Historia najbliższa. 16.50 Program dnia. 16.55 „Krzyż Grunwaldu" — wojsk. pr. hist. 17.15 Magazyn „17.15". 17.30 Program relaksowy w tym Sonda. 19.00 Zajęcza nocka nr 9. 19.30 Dziennik. 20.00 Publicystyka. 20.15 Teatr Sensacji. 21.35 DT. 21.55 XX Festiwal Piosenki Żołnierskiej — Kołobrzeg 86. 23.05 Studio Sport — Igrzyska Dobrej Woli — Moskwa 86 — wid. sportowe. 0.25 DT.




**Bielsk Podl.** Lekarki — NRD 7. Eutoner — NRD 10—11.
**Czeremcha** Lekkie obrażenia ciała — węg. 9. Owacje — radz. 12—13.
**Czyże** Trochę nadziei — NRD. Piątek nie światek — czes. 9—13.
**Michałowo** Karate po polsku — pol. 8—10. Pasażer w kajdankach — chińs. 11—13.
**Mielnik** Alabama — pol. 9—10. Ślady wilczych zębów — pol. 12—13.
**Milejczyce** Piorun kulisty — czes. Zuchwały napad — radz. 9—13.
**Nurzec** Czuję się świetnie — pol. 9. Konopielka — pol. 10—11.
**Orla** Pasła konie na betonie — czes. Fortepian w powietrzu — węg. 9—13.
**Rajsk** Szaleństwo panny Ewy — pol. Jutro się policzymy, kochanie — czes. 9—13.




# ШТО? ДЗЕ? КАЛІ?

| Дзень | Стыль | | Святы, імяніны | | Сонца | Месяц |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | новы | стары | | | усх.-зах | усх.-зах. |
| **нядзеля** | 6 | 23 | Дамінікі, Луцыі | **Ноч Купалы** | 4.22-20.58 | 2.53-21.14 |
| панядзелак | 7 | 24 | Цырыля, Методыя | *Раждж. Іаана Хрысц.* | 4.23-20.58 | 3.48-21.54 |
| аўторак | 8 | 25 | Эльжбеты, Пракопа | Леаніды, Фяўроніі | 4.24-20.57 | 4.54-22.22 |
| серада | 9 | 26 | Веранікі, Зенона | Давіда, Дзянісія | 4.25-20.56 | 6.09-22.43 |
| чацвер | 10 | 27 | Амеліі, Філіпа | Іанны, Самсона | 4.26-20.56 | 7.27-22.59 |
| пятніца | 11 | 28 | Ольгі, Пелагеі | Сяргея, Германа | 4.27-20.55 | 8.45-23.11 |
| субота | 12 | 29 | Яна. Славы | *Пятра і Пайла* | 4.28-20.54 | 10.03-23.23 |

## ГАДАВІНЫ

**135 год таму назад**

**6.7.1851 г. нар. беларускі паэт Янка Лучына (пам. у 1897 г.), зборнік яго вершаў „Вязанка" (выйшаў пасмертна ў 1903 г.) склалі: „Роднай староньцы", „Што думае Янка, везучы дровы ў горад", „Сівер" і іншыя творы.**

**65 год таму назад**

**11.7.1921 г. Дзень перамогі Народнай рэвалюцыі ў Манголіі.**

**11.7.1921 г.** урачыстае адкрыццё Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна ў Мінску, першым яго рэктарам (1921-29 г.г.) быў выдатны беларускі гісторык Уладзімір Пічэта, ва універсітэцкую бібліятэку ахвяравалі свае зборы заснавальнік беларусазнаўства Яфім Карскі, наш зямляк, родам з Корніцы над Бугам, славяназнавец Мікола Янчук і іншыя вучоныя. Універсітэт адыграў найважнейшую ролю ў станаўленні і развіцці беларускай навукі, асветы, культуры: між іншым, яго закончыла каля 250 сучасных беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку і некалькі нашых „белавежцаў". Цяпер у Беларускім універсітэце займаецца больш за 18 тысяч студэнтаў, на 11 факультэтах, на 106 кафедрах працуе больш 5 тысяч навуковых працаўнікоў, у тым ліку 47 акадэмікаў, 145 прафесараў, больш за 900 дацэнтаў. У фундаментальнай бібліятэцы універсітэта больш за 2 мільёны тамоў.

### У БГКТ

**6.7.86 г. Ноч Купалы ў Грушках. Гайнаўскі гарадскі і Нараўчанскі аддзелы БГКТ арганізуюць гучную Ноч Купалы ў Грушках каля Нараўкі. Абяцалі прыбыць: беларуская хоры з Гайнаўкі, Міклашэва, Ляўкова, Нараўкі і славуты калектыў „Дубіны". Пачатак а 15-й гадз. Арганізатары запрашаюць усіх ахвотных да спеваў, карагодаў і пошукаў папараці-кветкі.**

(Працяг са стар. 7)

### САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

блізкія асобы. Божа, як часы хутка мяняюцца...

Што рабіць табе цяпер? А што ты тут, брат, зробіш? Зрабіў сябе бацькам сам і кропка. Цяпер трэба выпутвацца, але і так цяжар гэта на ўсё жыццё.

Вядома, смешна было б жаніцца з незнаёмай, але ад аліментаў цябе ніхто не звольніць. Не шкада дзяўчыны, але шкада, што дзіця не будзе мець бацькі. А твае сумненні?..

Адну-адзіную раду магу табе даць на будучыню: больш не ўсміхайся!

**Сэрцайка**

### ПОШТА СЭРЦАЙКА

Дарагі Ваня „з Гайнаўкі"! Хаця я і Сэрцайка, то ёсць у мяне яшчэ і галава. Нешта ты тут, брат, наблытаў.

Навошта ты выбраў сабе дзяўчыну з дысертацыяй? Дзе ж у цябе розум? Сэрца — сэрцам, але розум павінен быць на сваім месцы. Найлепш узяць дзяўчыну простую, „дзеравенскую", якая будзе ведаць сваё месца, а розумам яе будзеш ты.

**С.**

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ"

**З Х з'езда ПАРП ● Новае ў Арлянскай гміне ● Беларусы на Сямяцічыне ● Звесткі з Савецкай Беларусі ● На Захадзе без перамен ● у „Прысутнасці" аб актыўнай дзейнасці варшаўскіх і біядзейнасці беластоцкіх студэнтаў ● Абпаленыя вайной ● Майстры падвойных тканін ● Каму гарадзіць Белавежскую пушчу ● На „Шляху гадоў" — вераломнае забойства князя Войшалка ● „Зорка" ● Чаму не хоча пісаць М. Панфілюк ● Любім з кагосьці рабіць дурня — сцвярджае Аўрора ● Расклад аўтобусаў ПКС з Сямяціч ● У беларускай кухні — капуста ● Слухаем і спяваем „Не шукай" ● Соннік ● Гадавіны ● Гумар**

## МУЗЕЙНЫ ФОНД

**Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:**

**Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132.**

**У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski I Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5018-24325-151 6787.**

**Спісак чарговых ахвяравальнікаў:**

| | | |
|---|---|---|
| 483. Рыгор Слізько (Беласток) | — | 500 злотых |
| 484. ПОМ у Дуброве Беластоцкай | — | 3.000 зл. |
| 485. Спулдзельчы банк у Мілейчыцах | — | 4.000 зл. |
| 486. М.С. (Лондан) | — | 12.000 зл. |
| 487. Акружная малочная спулдзельня ў Гайнаўцы | — | 2.000 зл. |
| 488. Гарадскі камітэт ЗСЛ у Гайнаўцы | — | 1.600 зл. |
| 489. Спулдзельчы банк у Гарадку | — | 1.000 зл. |
| 490. Дабраахвотныя складчыны працаўнікоў ГЗПМЛ у Гайнаўцы | — | 11.937,50 зл. |

**Дзякуем.**

**Паведамляем таксама, што цэнтры збірання экспанатаў для музея знаходзяцца ў наступных месцах:**

**у Пачатковай школе ў Рыбаках, гміна Міхалова.**
**у будынку былога ПЗГС у Гайнаўцы.**
**у клубе БГКТ у Бельску, вуліца Міцкевіча 50/54.**
**у клубе БГКТ у Гайнаўцы, вуліца Вызвалення 6.**
**у Гмінным камітэце ПАРП у Мілейчыцах.**
**у Саколцы, вуліца Варшынская 1.**
**у ГП БГКТ у Беластоку, вуліца Варшаўская 11.**

**Чакаем экспанатаў або інфармацыі аб месцы іх знаходжання.**

**Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6.**

**Тэлефон 28-89.**


# Ніва

**Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў:** Вера Валкавыцкая. Георгій Валкавыцкі (галоўны рэдактар), Мікалай Гайдук (намеснік галоўнага рэдактара). Валянціна Жэшка (карэктар), Міраслава Лукша, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Віктар Рудчык, Марыя Федарук (машыністка), Міхал Хмялеўскі, Яніна Чэрнякевіч, Ада Чэчуга (сакратар рэдакцыі), Сакрат Яновіч (тэхнічны рэдактар).



### АДРАС РЭДАКЦЫІ:

**„Niwa"**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok skr. poczt. 149**
**tel. 232-41**



Wydawca Białostockie Wydawnictwo Prasowe. 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Druk Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku. Cena prenumeraty kwart. 104 zł; półr. 208 zł, rocznej 416 zł.

**WARUNKI PRENUMERATY:**

1 dla osób prawnych — instytucji i zakładów pracy:
— instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miastach wojewódzkich i pozostałych miastach w których znajduje się siedziba Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" zamawiają prenumeratę w tych Oddziałach:
— instytucje i zakłady pracy zlokalizowane w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" i na terenach wiejskich opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli;

2 dla osób fizycznych — indywidualnych prenumeratorów
— osoby fizyczne zamieszkałe na wsi i w miejscowościach gdzie nie ma Oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacają prenumeratę w urzędach pocztowych i u doręczycieli.
— osoby fizyczne zamieszkałe w miastach — siedzibach oddziałów RSW „Prasa-Książka-Ruch" opłacaja prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych nadawczo-oddawczych właściwych dla miejsc zamieszkania prenumeratora. Wpłaty dokonują używając „blankietu wpłaty" na rachunek miejscowego Oddziału RSW „Prasa-Książka-Ruch"

3. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 23, 00-953 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie Nr 1153-201045-139-11. Prenumerata ze zleceniem wysyłki za granicę poczta zwykła jest droższa od prenumeraty krajowej o 50 proc dla zleceniodawców indywidualnych i o 100 proc. dla zlecających instytucji i zakładów pracy

Termin przyjmowania prenumeraty na kraj i za granicę:
— do dnia 10 listopada na I kwartał, I półrocze roku następnego oraz cały rok następny,
— do dnia 1 każdego miesiąca poprzedzającego okres prenumeraty roku bieżącego

Zam. 1057/86 r. Nakład 3.400 egz. R-3.

## СЛУХАЕМ І СПЯВАЕМ

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё ў суботу 5 ліпеня а 18-й гадзіне.

# ЦІХІ ВЕЧАР

Словы А. Русака
Музыка Г. Вагнера

Ціхі вечар у сузор'і
Над сялом плыве,
Засвяціліся агнямі
Росы на траве.
Да цябе не сам прыйшоў я, —
Сэрца прывяло,
А сваўму я сэрцу веру, —
Шчасце тут знайшло.
Не пытайся аб каханні,
Бо не адкажу,
Толькі знаю, што адна я
Без цябе тужу.
Толькі знаю, што назвала
Радасць я з табой,
Толькі знаю, што адзіны
Ты любімы мой.
Заўтра мы насустрач сонцу
Выйдзем у палі,
Дзе красою веснавою
Нівы расцвілі.
А сягоння ясны месяц
Выплыў за сяло,
Не сама к табе прыйшла я, —
Сэрца прывяло.

З чаго смяюцца суседзі.









### ЦВЁРДЫ ПРАДМЕТ

Суддзя пытае ў падсуднага:
— Вы прызнаеце, што ўдарылі афіцыянта цвёрдым прадметам па галаве?
— Так, я трэснуў яго біфштэксам, які ён прынёс мне на абед.

### СЯРОД СПАРТСМЕНАЎ

— Кажуць, што Пешкін прыме ўдзел у шахматным турніры.
— Праўда, прыме. Але ў ліку гледачоў.

### ПРАГНОЗ

— Відаць, ноччу будзе бура, — гаворыць муж.
— Калі вернешся дадому ў пару — не будзе, — упэўнена адказвае жонка.

### ІНШАЯ СПРАВА

Жонка сварыцца з мужам:
— Цяпер я ведаю, што ты ажаніўся са мною толькі з-за таго, што ў мяне былі грошы.
— Гэта няпраўда, — адказвае муж. — Я ўзяў цябе таму, што ў мяне іх не было.

### У АТЭЛІ

— У колькі гадзін трэба вас разбудзіць? — пытае прыгожая пакаёўка.
— А шостай, але пацалункам, — жартуе пастаялец.
— Добра, я скажу швейцару.

### МЫШКА

— Чаму вы толькі тры тыдні працавалі сакратаркай?
— Бо пан дырэктар пачаў называць мяне мышкай, а яго жонка вельмі баіцца мышэй.



Апёкся ў праменнях славы.

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Дзе ты збіраешся правесці водпуск?
— Калі Сеітаў вышле мне доўг, дык усёй сям'ёй паедзем на мора.
— А калі не вышле?
— Тады паедзем да Сеітава!

*

Шатландзец гаворыць жонцы:
— З тых пор, як мы сталі даваць нашаму Артуру за добрую адзнаку пені, ён прыносіць дадому адны пяцёркі!
— Відаць, ён дзеліць грошы з настаўнікам...

*

Дзве кіназоркі сустрэліся ў Канах.
— Дарагая, як ты цяпер жывеш? — пытаецца адна.
— Вось ужо сёмы раз выйшла замуж, — адказвае другая.
— А як зваць тваіго цяперашняга мужа?
— Пачакай, недзе ў сумачцы ёсць яго візітка.

### МІНІВЕРШЫ

#### РЫБАКІ

Рыбак, сустрэўшы рыбака,
Прасіў пасля няўдачы:
— Прадай мне, браце, шчупака...
Дамоў... для „справаздачы"
Маёй назоле жонцы Зіне...
— Я ж сам купіў у магазіне...

Міхась Скрыпка

### З „Весніка Задрыпоніі"

#### ДАПАМОЖАМ СЛЕДСТВУ!

13.05 г.г. у цырку гор. Ачуцінава адбыўся конкурс ілюзіяністаў. Пераканаўча просім грамадзян, якія што-небудзь ведаюць аб месцазнаходжанні 1200 гледачоў, ілюзіяніста С. Хватуноўскага, а таксама будынка цырку, паведаміць па тэлефону: 86-41-21.

#### СПОРТ

Малады дыскабол А. Змагар устанавіў рэкорд. Яго дыск даляцеў да Варшавы. Услед пераляцеў і сам рэкардсмен.







## Курёзы

### ТОЛЬКІ НЕ ДРУКУЙСЯ!

Гамбургскі журнал „Конкрэт" устанавіў арыгінальную літаратурную прэмію, накіраваную на „карысць літаратуры". Калі дагэтуль прэміі расцэньваліся як падтрымка творчасці пісьменніка, дык новая, насупраць, мае мэту „спыніць" творчую дзейнасць лаўрэата. Дык для атрымання вялікай сумы 30.000 марак лаўрэат павінен даць абавязацельства ніколі больш не публікаваць сваіх твораў і выбраць больш карысную для грамадства прафесію.

### ЛІМІТ НА ГАЎКАННЕ

У Сміттауні, адным з прыгарадаў Нью-Йорка, уласнікі сабак прайгралі адну вельмі тонкую справу: спасылаючыся на шматлікія скаргі грамадзян, якія не маюць сабак, мясцовая ўлада забараніла ўсім сабакам падаваць голас у межах горада. Потым, праўда, злітавалася і дазволіла гаўкаць. Але не больш 15 хвілін кожнаму. На спецыяльнага інспектара пакладзены абавязак сачыць, каб ніводзін сабака не перавысіў ліміту.




Адны свае імя носяць іншыя з ім носяцца.